Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 14 (4865) 8 красавіка 2016 г.



# Зачытаем!

**Як прывабіць дзяцей і падлеткаў да літаратуры? Над гэтым пытаннем ламаюць галаву бацькі, бібліятэкары, кнігавыдаўцы... Фестываль «Горад і кнігі. Навука» стаў увасабленнем дзясятка крэатыўных ідэй, якія варта ўзяць на ўзбраенне. Хвілінка-варушынка, вясёлыя пытанні да гасцей фестывалю і, нарэшце, напамін пра тое, што разумныя і добрыя кнігі — лепшая зброя супраць дэградацыі чалавецтва. Гэтыя словы прамаўляе не пісьменнік альбо вядучы, а робат-трансформер, які прыхапіў на свята вялізны мех з кнігамі. Нагода фестывалю зразумелая: праблема НЕчытання набывае жахлівыя маштабы ва ўсім свеце. На думку арганізатараў, прывабіць да літаратуры можна толькі весела, між іншым, сцвярджаючы, што кнігі, бібліятэкі і супольнае чытанне — гэта надзвычай цікава! Арганізатары фестывалю — супрацоўнікі навуковай бібліятэкі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Вольга Воўк**

Фота Марыі Вайцік.



Маленькі чытач падчас фестывалю.



Картонны горад з героямі кніг.

**і Вікторыя Хоміч. Гэта бібліятэкары са стажам, якія ўмеюць працаваць з вялікай аўдыторыяй і ведаюць, як зацікавіць дзяцей чытаннем. Першы фестываль «Горад і кнігі» адбыўся ў мінулым годзе. Поспех праекта засведчыла вялікая колькасць наведвальнікаў сёлетняга кніжнага свята: больш за пяць тысяч чалавек! 1 — 2 красавіка Нацыянальная бібліятэка Беларусі стала для многіх дзетак самым вясёлым і дзівосным месцам у горадзе.**

## ДЗЕЦЯМ

Больш за ўсё пашанцавала маленькім наведвальнікам, для якіх працавалі стэнды выдавецтваў з яркімі дзіцячымі кнігамі. Адзін з іх ператварыўся ў «Кніжную нару» з дыванам-лужком і канапамі, на якіх можна было змясціцца з нагамі і чытаць упадабаную кнігу. Самай шматлюднай была дзіцячая пляцоўка, дзе адбылося шмат яркіх спектакляў.

Чытайце на стар. 3

## Пункцірам

✔ Урачыстасці з нагоды 20-й гадавіны ўтварэння Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі адбыліся на гэтым тыдні ў абедзвюх краінах. У Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў панядзелак прайшоў святочны канцэрт з нагоды Дня яднання народаў Беларусі і Расіі. Гасцям таксама прапанавалі маштабную фотавыстаўку пра ключавыя моманты жыцця Саюзнай дзяржавы, выдавецкія праекты, якія пабачылі свет пры падтрымцы Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы: газеты, часопісы, фотаальбомы, кнігі, у тым ліку і альманах пераможцаў конкурсу маладых літаратараў «Мост дружбы». У гэты ж дзень у Маскве, у Цэнтральным акадэмічным тэатры Расійскай арміі, прайшла афіцыйная цырымонія і святочны канцэрт з нагоды юбілейнай даты.

✔ Падчас сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Венгрыі Аляксандра Хайноўскага з намеснікам дзяржаўнага сакратара Міністэрства чалавечых рэсурсаў Венгрыі Гергеем Проле абмеркаваны магчымасці пашырэння супрацоўніцтва ў культуры і адукацыі. Выказана ўзаемная зацікаўленасць у падпісанні праграмы супрацоўніцтва ў галіне культуры, якая будзе ўключаць пералік канкрэтных мерапрыемстваў.

✔ Цэнтральнае культурна-спартыўнае мерапрыемства СНД у 2016 годзе — ІІ Сусветныя гульні качэўнікаў — пройдзе ў Кыргызстане ў канцы верасня. Чакаецца ўдзел прадстаўнікоў амаль 40 краін. Паводле пастаяннага паўнамоцнага прадстаўніка Кыргызстана пры статутных і іншых органах СНД, пасла Кыргызстана ў Беларусі Кубанычбека Амуралієва, мерапрыемства, якое адбудзецца на возеры Ісык-Куль, прадэманструе гісторыю качавых народаў, іх традыцыі, побыт і культуру.

✔ Выкладчыкі БДУ і Цукубскага ўніверсітэта (Японія) выпусцілі кнігу «Спрабуйма!» для вывучэння беларускай мовы японцамі. Гэта першы практычны дапаможнік пачатковага курса беларускай мовы ў Японіі, лаканічная назва якога замяняе «Давайце паспрабуем вывучыць асновы беларускай мовы разам!». Мяркуецца, што са з'яўленнем кнігі пачатковы курс па беларускай мове японцы змогуць асвоіць нават самастойна. Цяпер да выдання рыхтуецца другая частка кнігі. Плануецца, што яна будзе выдадзена да канца вучэбнага года.

✔ Канцэрты XXIX Міжнароднага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі ладзяцца ў канцэртнай зале Сафійскага сабора да 27 красавіка. Праграма складаецца з 7 канцэртаў, у якіх мастацтва камернага музіцыравання дэманструюць сусветна прызнаныя калектывы і салісты з Беларусі, Расіі, Літвы, Эстоніі, Польшчы, Аўстрыі і Кітая. Завяршэнне фестывалю будзе прысвечана музыцы Вольфганга Амадэя Моцарта, 260-годдзе з дня нараджэння якога адзначаюць ва ўсім свеце.

✔ А ў Пінску на 11—12 лістапада запланавана правядзенне Рэспубліканскага фестывалю старадаўняй і лютневай музыкі «Старажытныя ўзоры», паведамілі ў аддзеле ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Пінскага гарвыканкама. Уласна ідэя правядзення фэсту належыць гітарысту і педагогу Юрыю Дубнавіцкаму, які на базе Пінскай музычнай школы № 1 арганізаваў ансамбль старадаўняй музыкі «Сальтарэла». Калектыў, дзе іграюць музыку барока на дакладных копіях інструментаў эпохі Рэнесансу, стаў візітнай карткай Пінска. Чакаецца, што ў фестывалі возьмуць удзел каля 150 чалавек.

# Гісторыя не маўчыць

## Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў адзначыў 75-годдзе

**Зараз у архіве сотні тысяч фотафонадакументаў: хранікальна-дакументальныя, мастацкія і анімацыйныя фільмы, кіначасопісы, асобныя кінасюжэты, фотадакументы ў выглядзе негатываў і фотаальбомаў, хранікальна-дакументальныя і мастацкія гуказапісы. Гэта адзінае ў Беларусі месца, дзе захоўваюцца аўдыявізуальныя запісы. Тут ажываюць галасы былых знакамітых людзей — дзяржаўных і партыйных кіраўнікоў, дзеячаў навукі і мастацтваў.**

Сярод дакументаў — рэдкія фотаздымкі, якія адлюстроўваюць гісторыю нашай краіны на працягу болей чым сотні гадоў. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць кінакадры і фотаздымкі, зробленыя на мяжы XIX і XX стагоддзяў. Тут можна ўбачыць прыезд цара Мікалая II, будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі, Курлоўскі расстрэл 1905 года ў Мінску, братанне салдат на франтах Першай сусветнай вайны…

— Цікавасць да мінулага ў апошні час узрастае, — гаворыць начальнік аддзела Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў Таццяна Рахманько. — Сярод нашых карыстальнікаў — як беларусы, так і грамадзяне іншых дзяржаў. У дакументах нашага архіва адлюстраваны шматлікія эпізоды, факты, якія ўжо даўно адышлі ў нябыт, але дзякуючы захаваным матэрыялам вяртаюць у мінулае, дазваляюць ствараць рэальныя карціны таго, як людзі жылі раней, якія падзеі мянялі сусвет.

Па-ранейшаму матэрыялы на тэму Вялікай Айчыннай вайны застаюцца самымі запатрабаванымі. Напрыклад, да 70-годдзя Вялікай Перамогі ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшла кніга «Мая вайна. Вялікая Айчынная вайна на фотаздымках У. І. Аркашова». Нагодай для такога выдання стала калекцыя былога фотакарэспандэнта газеты «Красноармейская правда» 3-га Беларускага фронту Аркадзя Аркашова, якую беражліва захоўваюць у архіве. А зараз яна стала даступнай і шырокаму чытачу.

У Беларусі сваю дзейнасць архіў пачаў толькі пасля вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (пры тым, што 29 сакавіка 1941 года пастанова Савета Народных Камісараў СССР зацвердзіла сетку дзяржаўных архіваў СССР). На той час ён знаходзіўся ў Мінску, і ўвесь комплекс дакументаў змяшчаўся ў адной шафе — у сховішчы Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці. Працяглы час архіў туліўся ў будынку царквы-часоўні на закрытых Старажоўскіх могілках. Рашэнне аб узвядзенні новага будынка ў Дзяржынску было прынята ў пачатку 70-х гадоў, а навасельцам архіў стаў 20 лютага 1987 года: будавалі па спецыяльным праекце. Зараз іще мадэрнізацыя самога будынка, таксама актыўна ўкараняюцца новыя інфармацыйныя тэхналогіі.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Вяртанне Скарыны

## Бясплатна перададзена лічбавая копія кнігі, што захоўваецца ў Кембрыджы

Унікальнае выданне «Першая кніга царстваў», выдадзеная Францыскам Скарынам у Празе на пачатку XVI стагоддзя, у віртуальным выглядзе вярнулася ў Беларусь з Вялікабрытаніі. Гэта акцыя адбылася ў выніку трохгадовых перамоў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі з бібліятэкай Траецкага каледжа ў Кембрыджы і актыўнай дзейнасці беларускага афіцыйнага прадстаўніцтва на тэрыторыі Аб'яднанага Каралеўства.

Электронны экзэмпляр перададзены беларусам абсалютна бясплатна. Гэта не поўнае выданне, а толькі фрагмент. Але ж гэты факт не адмяняе важнасці і сур'ёзнасці падзеі, бо з пяціста вядомых выданняў пачынальніка беларускага кнігадрукавання, якія знаходзяцца па ўсім свеце, толькі дзесяць экзэмпляраў захоўваюцца ў Беларусі.

Паколькі арыгінал выдання застаўся ў Кембрыджы, прадстаўнікі Беларусі вядуць перамовы наконт магчымасці атрымання яго для часовага экспанавання ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, што магло б стаць адной з найважнейшых падзей у культурным жыцці нашай краіны, асабліва да юбілею айчыннага кнігадрукавання.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Педагогіка тэатра

Фестываль эксперыментальных тэатраў «Цэнтр» стартуе 16 красавіка ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў. У праграме — работы незалежных беларускіх сталічных тэатраў у нязвыклым для класічнага гледача фармаце. Пластычна-харэаграфічныя перформансы, інтэрактыўныя спектаклі, монапастаноўкі. Усяго няшмат, але цікава, што аўдыторыя фестывалю — як маленькія, так і дарослыя.

Так, для дзяцей выступіць сямейны тэатр «Веліструхен», патлумачыўшы малышам, «хто ёсць КОТ». Харэограф Вольга Лабоўкіна прадставіць работу «*Adoption*, альбо Была такая сацыяльная рэклама». Гэта ўжо перформанс з абмежаваннем 18+, які пакажа, дзе знаходзяцца межы прыняцця, адчування, разумення чалавекам сябе і іншых. Эксперыментальны тэатр «*EYE*» пакажа форум-спектакль «Маленькі нюанс» пра хлусню і праўду, уключыўшы ў тэатральнае мастацтва рысы псіхалогіі і педагогікі. Галоўныя рысы такіх пастановак — удзел гледачоў у дзеянні, акцэнт на канкрэтных жыццёвых праблемах і іх вырашэнні. Творчая майстэрня «Сляды» пераасэнсуе творчасць Чарльза Букоўскага («Самую прыгожую жанчыну ў горадзе»). І, нарэшце, у падвальных памяшканнях НЦСІ пластычны тэатр «вКубе» раскрые філасофію жыцця ў «Дзецях Плутона».

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Вакацыі» падчас вучэбнага года

## Час і месца творчасці ў адукацыйных установах

У Беларусі пачаўся другі этап Рэспубліканскага фестывалю мастацкай творчасці вучнёўскай і студэнцкай моладзі «Арт-вакацыі».

За час свайго існавання фестываль стаў не проста творчай пляцоўкай студэнцкай моладзі для абмену вопытам і прафесійнымі навыкамі, але і незабыўным святам музыкі, харэаграфіі, літаратурнай творчасці і тэатральнага майстэрства.

Сёлета праграму фестывалю складаюць разнапланавыя мерапрыемствы, якія будуць праводзіцца як у абласных, так і рэгіянальных гарадах і мястэчках. Сярод іх — конкурс сучаснай лічбавай творчасці «АРТ-партал», літаратурны конкурс «Аўтограф», а таксама інтэрактыўны праект «Рэцытацыя» і інсайт-праект «*PRO*-вакацыі».

Другі этап фестывалю праводзіцца пад дэвізам «Новы фармат творчасці — у новых магчымасцях часу», што ўжо падкрэслівае абсалютна ўпэўнены курс у развіцці патэнцыялу маладых людзей.

Студэнцкія калектывы ўзмоцнена прадумвалі і працавалі над сваімі нумарамі, бо разумеюць, што ўдзел у фестывалі — не толькі магчымасць прадставіць сябе і паказаць свой талент вялікай аўдыторыі, але і добрая нагода расказаць іншым удзельнікам фестывалю менавіта пра сваю альма-матар.

Фінал творчага праекта плануецца правесці чатырнаццатага мая ў Палацы спорту.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Вясна спявае

На пачатку красавіка, таленавітыя выканаўцы ва ўзросце ад 7 да 17 гадоў прадэманструюць свае вакальныя здольнасці на прэстыжных пляцоўках горада перад кампетэнтным журы — дырыжорамі-хормайстрамі, кампазітарамі, прафесійнымі педагогамі. Выступленні прадстаўляюць фальклорную і класічную музыку беларускіх аўтараў. Гаворка ідзе пра ІІ Мінскі адкрыты конкурс харавых і сольных спеваў «Вясновы спеў». У творчым спаборніцтве сыдуцца 60 салістаў і 44 харавыя калектывы з нашай краіны. Усяго — больш за паўтары тысячы ўдзельнікаў.

Стартавала мерапрыемства ў Мінскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. І. Глінкі. Потым месца дзеяння перамясцілася ў канцэртную залу «Верхні горад», дзіцячую музычную школу мастацтваў імя Л. П. Александроўскай і Беларускую дзяржаўную філармонію.

Задача конкурсу, па словах арганізатараў, — знайсці і падтрымаць не толькі адораных спевакоў, але і харавых дырыжораў, якія працуюць з дзіцячымі калектывамі, спрыяць развіццю мастацкага густу, выканальніцкай культуры навучэнцаў школ. Выбар пераможцаў праводзіцца па чатырох намінацыях «Акадэмічны сольны спеў», «Акадэмічныя харавыя спевы», «Народны сольны спеў», «Народныя харавыя спевы».

Акрамя конкурсных праслухоўванняў, у праграме — *workshop* на тэму некласічных тэхналогій у сучаснай вакальна-харавой практыцы дзіцячага хору. Размова пра харавы авангард, альтэрнатыўную натацыю, графічныя партытуры. Таксама за дзень да падвядзення вынікаў, 7 красавіка, на сцэне малой залы імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі адбудзецца канцэрт вакальнай і харавой музыкі кампазітара Алены Атрашкевіч «Аддам табе любоў...». Прагучалі лепшыя творы з творчай скарбонкі майстра ў выкананні вучняў, выпускнікоў і выкладчыкаў Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі. У праграме ўзялі ўдзел паэты Васіль Жуковіч, Людміла Войнава і Таццяна Мушынская. У якасці гасцей канцэрта запрошаныя лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, папулярная беларуская спявачка Жанет і ўзорная эстрадная студыя ДК г. Маладзечна «Спяваем разам».

**Марыя ВОЙЦІК**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Зачытаем!

Бэбі-тэатр «Бусы» паказаў прадстаўленне на астранамічную тэму. Дзеткі адгадвалі вершаваныя загадкі, пералічвалі знакі задыяка, слухалі і паўтаралі гукі космасу, успаміналі назвы планет і адрас Зямлі ў бязмежным Сусвеце. Дзеянне суправаджалася малюнкамі і музыкай. Дзве актрысы былі на адной хвалі з аўдыторыяй, што забяспечыла поспех спектакля.

Вельмі душэўнай атрымалася пастаноўка праекта «Альтанка для чытанкі». Фея Усмешка на беларускай мове распавяла казку пра сеньёра Кропельку, які доўгай дарогай нарэшце патрапіў да сяброў. Казку суправаджала песенька пад гітару, і гледачы павінны былі падтрымліваць вершы дзеяннямі і жэстамі. Пацешыў дзетак і лялечны тэатр «Хата сонца». Малым так і карцела падысці бліжэй і памацаць цацачных звяркоў!

Дзіцячую пляцоўку ўпрыгожвала выстаўка «Усмешлівыя цуды» — картонны горад, дзе змясціліся цікавыя кнігі і іх галоўныя героі. Але замест Карлсана, Віні Пуха ды Пэпі Доўгайпанчохі гасцей чакалі ўсмешлівая Баба Яга, залаты конь з крыламі і пяццю нагамі, раз'юшаная цыбуля і морква. Каб пазнаёміць наведвальнікаў з персанажамі прадстаўленых выданняў, арганізатары перыядычна праводзілі экскурсію па выстаўцы. Для экспазіцыі былі абраны сучасныя кнігі, выпрабаваныя на маленькіх удзельніках курсаў «Гучныя чытанні».

«Мы прадставілі кнігі з характарнымі, яркімі героямі, якіх паводле абліччА можна атаясаміць з пэўнай ідэяй. Нам былі патрэбны каларытныя і адмысловыя персанажы, якіх вельмі добра намаляваў мастак-ілюстратар. Толькі ў гэтым выпадку мы прапаноўвалі майстрам брацца за стварэнне арыгінальнай цацкі», — патлумачыла задуму «Усмешлівых цудаў» адна з арганізатараў фестывалю Наталля Мядзведзь.

Свята стала выдатнай магчымасцю даведацца пра «Гучныя чытанні». Аднайменная зона была ўтульным месцам для маленькіх гасцей: шмат мяккіх падушак, кошык з кнігамі, фатэль і таршэр. Цяжка ўявіць, што прыступкі Нацыянальнай бібліятэкі могуць так лёгка ператварыцца ў мілую дзіцячую гасцёўню... Тут можна было адпачыць ад яркіх падзей, пагартаць цікавыя кнігі і паслухаць у амаль хатняй атмасферы пісьменнікаў ды прафесійных чытальнікаў. Каб чытаць кнігу ці размаўляць пра яе, не патрэбна адмысловая дыстанцыя ў выглядзе высокай сцэны. Вядома, калі пісьменнік чытае побач з дзецьмі, між іншым адказвае на пытанні і ладзіць гульню, то губляе арэол значнасці і таямнічасці. Але даверлівыя адносіны з аўдыторыяй вартыя гэтай страты!



Фота Марыі Вайцік.

*З кнігамі знаёміліся нават на…прыступках!*

Для бацькоў фестываль стаў нагодай задумацца, як лепш арганізаваць вольны час дзяцей, як уцягнуць іх у гульню і самім не застацца ўбаку. Напрыклад, падчас майстар-класа аматары тэатра маглі зрабіць з кардона і ніток старадаўнюю ляльку-дзяргунчыка для хатняга спектакля. Развіваць творчыя здольнасці можна з дапамогай самых простых матэрыялаў, калі навучыцца адчуваць іх фактуру, уласцівасці і ўзаемаспалучальнасць.

Інсцэніроўка твора, узнаўленне любімых персанажаў з дапамогай фарбаў ці іголкі з ніткай, стварэнне экспазіцыі кніг і іх герояў, літаратурная гульня, сумеснае напісанне цікавай гісторыі... Зацікавіць дзяцей чытаннем можна самымі рознымі спосабамі, галоўнае — творча падысці да справы і не забыцца на добры настрой.

## МОЛАДЗІ

Зразумела, галоўным героем фэсту была кніга. Адразу побач з гардэробам і ўваходам на асноўныя пляцоўкі знаходзіўся столік і стэнд з кнігамі. Яго арганізавалі валанцёры праекта «Кнізе — другое жыццё». Вядома, сапраўдных кнігалюбаў не адпудзіць ад добрай літаратуры сапсаванай вокладкай ці надарваным форзацам. Затое ў такіх выпадках можна навучыцца лячыць кнігі. Як гэта правільна рабіць, прадэманстравалі студэнты гуртка «Пераплётнае майстэрства» Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта.



*Творы з гісторыяй: тэатральная інсцэніроўка.*

Было багата і іншых карысных сустрэч, бо фестываль меў навуковую скіраванасць. Пазнаёміцца з таямніцамі прыроды можна было не толькі ў кніжным фармаце, але і падчас эксперыментаў ды гульняў. Знайшлося месца і гуманітарным навукам: адна з калон бібліятэкі ператварылася ў стэнд, які знаёміў з дзейнасцю сучасных літаратуразнаўцаў ды крытыкаў. А вось дзіцячыя пісьменнікі непасрэдна ўдзельнічалі ў фестывалі.

Так, на працягу свята можна было згуляць у атмасферную настольную гульню «Кнігаполія». Яе вядучай была пісьменніца Надзея Ясмінска. Гульня праходзіла кожную гадзіну і патрабавала чатырох удзельнікаў, але ахвотнікі запісваліся на некалькі гульняў наперад. Некаторым так спадабалася збіраць калекцыю кніг, што яны ўдзельнічалі ў «Кнігаполіі» некалькі разоў запар. Ды як не захапіцца гульнёй, якую прэзентуе абаяльная маладая вядучая! Надзея Ясмінска не толькі забаўляла наведвальнікаў, але і прадставіла лекцыю пра тое, як самастойна выдаць кнігу. Наведвальнікі маглі даведацца, якія псіхалагічныя бар'еры чакаюць маладога пісьменніка, наколькі важна прадумаць форму і кампазіцыю будучай кнігі, як звяртацца да выдавецтваў, якія існуюць шляхі для распаўсюду выдання. Расповед быў падмацаваны прыкладамі з уласнага досведу.

На свята таксама завіталі пісьменнікі Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастарнак. Першага красавіка на экспертнай пляцоўцы яны, не жартуючы, абмяркоўвалі, як патраціць мільён долараў на тэатр для падлеткаў. Праблему патлумачыў Андрэй Жвалеўскі: «У беларускіх тэатрах шмат спектакляў для маленькіх гледачоў, але няма адмысловага рэпертуару для падлеткаў. Падлеткі не ходзяць самі ў тэатр — яны наведваюць яго разам з настаўнікамі ці бацькамі. У Маскве працуе РАМТ (Расійскі акадэмічны маладзёвы тэатр), напраўду папулярны сярод падлеткаў. Яны ходзяць у РАМТ як у кіно. У нас кіно ёсць, а РАМТа няма…». Стварэнне беларускага падлеткавага тэатра — цікавая задача, якую, на думку экспертаў, лепш за ўсё вырашаць праз стварэнне адмысловых тэатральных студый і частыя гастролі па школах.

У наступны дзень Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастарнак сустрэліся з падлеткамі, каб разам прыдумаць літаратурны сюжэт. Пасля лекцыі-прэзентацыі адбылося абмеркаванне: у выніку пры падтрымцы арганізатараў дзеці за гадзіну склалі цікавую прыгодніцкую гісторыю.

Напрыканцы свята разгарнулася тэатральнае прадстаўленне ад тэатра-студыі «42». Акцёры прадставілі гісторыю кнігі: перапісчыкі кніг у манастырах, вынаходніцтва друкаванага станка Гутэнберга, узнікненне газет і, нарэшце, смартфонаў. Давялося паглядзець на сябе з боку і параўнаць, што раней давала людзям кніга і што мы страчваем сёння.

Нягледзячы на тэхнічны прагрэс, кніга застанецца чароўнай гаванню натхнення!

**Вольга ШАРКО,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Дайджэст

• Сёлета пройдзе 11-ы сезон літаратурнага конкурсу «Руская прэмія», вядомага адной асаблівасцю: прэтэндэнтамі на перамогу становяцца прадстаўнікі розных краін, якія пішуць на рускай мове. Барацьба за літаратурную перавагу пройдзе ў трох катэгорыях: «Паэзія», «Малая проза» і «Буйная проза». Сярод паэтаў — Ірына Еўса з Украіны, Каця Карповіч з ЗША, а таксама Данііл Чконія з Германіі. На званне лепшых празаікаў прэтэндуюць Алена Бачарышвілі з Канады, Алена Макарава з Ізраіля (малая проза), Аляксандр Гадоль і Андрэй Хомчанка з Украіны, Раман Кажухаром з Малдавіі (буйная проза). У праграме прэміі ёсць намінацыя «За ўклад у развіццё і зберажэнне традыцый рускай культуры за межамі Расійскай Федэрацыі», якую, як ужо вядома, атрымае Ігар Коцюх, літаратурны дзеяч з Эстоніі. Уручэнне прэмій пройдзе ў Маскве, 26 красавіка.

• У гонар Года расійскага кіно ў санкт-пецярбургскай Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Пушкіна адкрыўся кінатэатр «Чароўны свет», які аб'ядноўвае дзіцячую літаратуру і кінавытворчасць. Наведвальнікамі могуць стаць любыя жадаючыя ад 6 да 18 гадоў, але ім давядзецца прайсці цікавыя заданні па тэме «Падарожжы ў краіну Фантазіі», перш чым атрымаць бясплатны квіток у 3D-кіналабараторыю. Праграма літаратурных экранізацый для дзяцей разлічана пераважна на такія сацыяльныя пласты, як шматдзетныя сем'і і цэнтры сацыяльнай дапамогі дзецям, але незалежна ад гэтага адзіны пакуль праект такога роду ў Расіі павінен стаць не толькі забаўляльным мерапрыемствам для ўсіх дзяцей, але і займальна-навучальным.

• Праект *InfoGrapher.by* пачаў кампанію па папулярызацыі сучаснай беларускай літаратуры. Арганізатары абяцаюць удзельнікам шмат цікавага кантэнту, інтэрактыў і прызы. Кампанія «Чытаем беларускую» арыентавана ў першую чаргу на моладзь, таму пераважная частка яе будзе праходзіць у сацыяльных сетках, у прыватнасці *vk.com* і *facebook.com*. Праграма мінімум — прыцягнуць увагу маладых беларусаў да нацыянальнай літаратуры. З гэтай мэтай у рамках кампаніі, сярод іншага, будуць праводзіцца эстафеты, розыгрышы ды конкурсы. Удзельнікі розыгрышаў змогуць выйграць кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў з аўтографамі аўтараў. У прыватнасці, будзе магчымасць выйграць кнігу з аўтографам нашага нобелеўскага лаўрэата ды шмат іншых каштоўных прызоў. Для тых жа, хто ўжо захапіўся беларускімі творамі, «Чытаем беларускую» выпусціць серыю адмысловых закладак.

• Венгерскі лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2002 года Імрэ Кертэс памёр ва ўзросце 86 гадоў пасля працяглай хваробы. Пра гэта паведаміла агенцтва *Reuters*. Кертэс, венгр яўрэйскага паходжання, які нарадзіўся ў Будапешце, з 1944 па 1945 год быў вязнем Асвенцыма і Бухенвальда. Першы раман «Без лёсу» Кертэс напісаў у 1975 годзе. Гэта быў аповед ад асобы яўрэйскага хлопчыка, які патрапіў у канцлагер. «Без лёсу» быў прыняты ў сярэдзіне 1970-х вельмі холадна, венгерская крытыка проста абышла яго маўчаннем. Кертэс доўгі час жыў перакладамі з нямецкай. Але ў 1988 годзе ён напісаў другі раман «Фіяска», які працягнуў тэму жыцця ў лагерах. Завяршальным акордам трылогіі стаў раман «Памінальная малітва па ненароджаным дзіцяці» (1990). Толькі з 1990-х гадоў пра Кертэса як пра пісьменніка даведаліся чытачы за мяжой: тады яго ўпершыню пераклалі на англійскую мову.

## Дэбют



### Васіль МАКАРЭВІЧ

## Вуліца

*У Магілёве адна з вуліц названа імем Анатоля Сербантовіча*

*Расціснем пляшку —*
*Што там лішне муляцца? —*
*Як і ў студэнцтве колісь, за вуглом!*
*Бо іменем тваім назвалі вуліцу,*
*Дзе новы кожны двор*
*І кожны дом!*

*Ці думаў,*
*Як у вёсцы тузаў лейцамі*
*Ці крочыў дзесьці ў мітусні людской,*
*Што прозвішча даверліва прылепіцца*
*Да забудоў, з акрасай*
*Гарадской?*

*З капрызнай музай,*
*Быццам з маці хроснаю,*
*Віхрасты і няўседлівы, як драч,*
*Умела кросны ты снаваў за кроснамі*
*І ткаў палотны вершаў,*
*Нібы ткач.*

*Ды за радок*
*І гузіка не выменяў,*
*Хоць гэты свет — тарғаш і Галівуд.*
*А вуліца з тваім уласным іменем —*
*Нібыта ўлетку снег*
*На галаву!*

*На клёнах*
*Раскашуюць птушкі пеўчыя,*
*Сярод галля ім у цяпле лацвей!*
*Былі гады, калі не меў капейчыны,*
*Цяпер ты — з багацеяў*
*Багацей!*

*Ад гэткай весткі*
*Можна і расчуліцца.*
*Ды напаслед скажу я пару слоў,*
*Што на тваёй пераначую вуліцы,*
*Калі прыеду ў горад*
*Магілёў.*

## Дыпціх

**1**

*Неба зорамі поўна, як скарбніца.*
*Зазіраюць яны ў шкло акон.*
*Млечны Шлях назнарок апускаецца*
*Ды ідзе да мяне на балкон.*

*У цябе ёсць стратэгія з тактыкай.*
*Не марудзь і ў світальнай імжы,*
*Як да вёскі, да блізкай Галактыкі*
*Ты вазьмі і па ім дабяжы!*

**2**

*А груша дзяўчынай вясковай*
*Наўзбоч, каля гулкай шашы,*
*Налітыя летняй аскомай*
*Трымае плады-гладышы.*

*Ніхто з ёй дражніцца не стане,*
*Не будзе, канечне, і кпіць, —*
*Аскома, як брага густая,*
*Здаецца, вось-вось закіпіць.*

## Балада

*Зубамі рваць бы*
*Мне ўначы падушку,*
*На цэлы свет дудзець бы у дуду.*
*«Ты заставайся жыць адно, дачушка,*
*Я ў крэматорый за цябе*
*Пайду».*

*Дзяўчынцы так*
*Сказала маці Броўкі*
*У канцлагеры, ад шынялёў рудым.*
*Хрыпелі крэматорнай печы бронхі,*
*Уверх вывяргаючы асклізлы*
*Дым.*

*Вярнулася*
*З чужых краёў суседка,*
*Дзён разаслаўшы звэдзганы сувой.*
*Ды крыкнула і стала неўпрыкметку*
*Яна зязюляй шэрай*
*І сівой.*

*І Броўка ўдумны*
*Ля бацькоўскай хаты,*
*Аб'ездзіўшы паўсвету, пры кійку,*
*Стаяў, нібыта перуном працяты,*
*Паблізу ўчуўшы матчына*
*«Ку-ку».*

## Вернасць

*Памяці Максіма Танка*

*Шаша узвыла*
*Ўпобачкі маторамі*
*І анямела на сямі вятрах.*
*Калі ён вынес урну з крэматорыя,*
*Дзе жонкі умясціўся лёс і прах.*

*Ён не дружыў*
*З пустымі тары-барамі*
*І не чакаў, як медзякоў, пахвал.*
*Астанкі не даверыў калумбарыю*
*І на магілках прах не пахаваў.*

*Рассохлымі*
*Масніцамі не скрыпнуўшы,*
*У немай сціхаце, не ў цеснаце, —*
*Са стужкаю жалобнай урну-скрыначку*
*Паставіў ён у хаце, на куце.*

*І ў одум зноў*
*Ці ва ўспамін заглыблены,*
*Як сейбіт той, што дбае пра пасеў,*
*На плечуках, з гадоў цяжкімі глыбамі,*
*На край услона стомлены прысеў.*

*Хто знае,*
*Як ён жыў з душой самотнаю,*
*Мо разважаў начамі праз акно*
*З сузор'ямі ды снежнымі сумётамі*
*І з прахам роднай жонкі заадно.*

*Калі ж яго хавалі каля Мядзела*
*І дзень гарэў праяваю з праяў,*
*Сабе на грудзі ў яміне-упадзіне*
*Ён урну з прахам жончыным*
*Прыняў.*

* * *

*Каб дождж прайшоў*
*Ці грымнуў градабой,*
*Лычамі лодкі вызіралі з мелі.*
*І корні дужых маладых дубоў*
*Тачыліся ў прадонне*
*Падзямелля.*

*Ўсыхала квецень,*
*Што за пух лягчэй,*
*І рэкі перасмяглі, бы ў пустэльні.*
*Ад спёкі жоўты жвір ажно сквіpчэў,*
*Як на пякельнай круглае*
*Патэльні.*

*Нібы каняку,*
*Дзень сякуць сляпні.*
*Бязладдзе, духаты, забеспячэнцы.*
*А бульбы кошык у пясок сыпні, —*
*Адразу, нібы ў прываку,*
*Спячэцца.*

*Дарэшты*
*Выган-выпас агалеў*
*І ясакар аціх-прымоўк, бунтоўны.*
*З рачнога дна наверх вылазіць глей*
*І робіцца цвярдзей ён*
*Ад бетона.*

*А сонца*
*Над гарамі гарадоў,*
*Здаецца, не заходзіць і па тыдню.*
*Глядзі, гатовы скінуць шапкі льдоў*
*Антарктыка з сястрою*
*Антарктыдай.*

---



### Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

*З кнігі «Полька беларуская»*

## Матчын наказ

*У сямнаццаць ехаў з дому,*
*Маці гаварыла:*
*«Не чыні таго другому,*
*Што табе не міла...»*

*У чужым і ў нашым краю*
*Восеньскім, вясновым —*
*Я заўсёды памятаю*
*Матчыныя словы.*

*І ў адчаі, паняверцы*
*Дух не трачу родны,*
*Бо жыве ў душы, у сэрцы*
*Той наказ лагодны.*

*Грэе кроў, галубіць стому*
*Векавая сіла:*
*«Не чыні таго другому,*
*Што табе не міла...»*

## «Кода́к»[1]

*Заўсёды — ці выпіць віна,*
*Ці выйсці на ганак сядзець —*
*Трывога адна і адна:*
*Свой час пільнаваць, нібы смерць.*

*Аднак жа не ўцяміць ніяк,*
*Чаму, як нажа вастрыё,*
*Прыходзіць не час, а «Кода́к» —*
*Дзяцінства прыходзіць маё.*

## Давыд-Гарадок

*Мой вечны Давыд-Гарадок...*
*Не лодка на беразе — днішча...*
*Я знаю цябе назубок*
*Ад Мэльнікаў[2] і да Хабішчаў[3].*
*З далёкай хрушчоўскай пары*
*Малы, а ўжо так самавіта*
*У родным «кода́цкім» двары*
*Я думаў пра князя Давыда.*

*А школьнікам з бацькавых слоў*
*Убачыў, нібыта ікону,*
*На лесвіцы даўніх вякоў*
*Правіцельку слаўную Бону.*

*І цешыла вочы Гарынь,*
*І Сешка[4], і рэкі другія,*
*Што зніклі ў балотную стынь*
*З Няпраўдаю і Чартарыяй[5].*

*А кветак... Сем сотак гарод*
*З душой гаварыў урачыста,*
*І маці гароду штогод*
*Душу аддавала ўсю чыста.*

*І там, на Царкоўнай гары,*
*І тут, дзе Вірок[6] мой вірлівы —*
*Спачатку юнацкай пары*
*Сябе адчуваў я шчаслівым.*

*І гонкага дуба[7] насок*
*Заўжды кіраваў неміnуча*
*На белы, як мліва, Пясок[8],*
*На прыкрую[9] Шкодзіну кручу[10].*

*І песняй пра вішню жывы,*
*Па вуліцы йшоў я Альшанскай[11];*
*Хадзіў ад царквы да царквы —*
*Ад Юраўскай і да Казанскай.*

*...Гавораць, што ты занядаў,*
*Глядзішся і квола, і сонна*
*Не ў рэкі, а ў рэшткі канаў —*
*Сталіца былога раёна.*

*Райкам пад бальніцай зачах,*
*І ў райвыканкаме бальніца...*
*Згасае, як дзень, на вачах*
*Былога раёна сталіца.*
*Вось думка мяне прывяла*
*К будынку ў гародзе квяцістым,*
*Тут колісь газета была,*
*І ў ёй працаваў Вярцінскі[12].*

*Тут колісь... А зрэшты няхай*
*Былое ў былым застаецца;*
*Любы асяродак і ўскрай*
*Татарскай далінай[13] здаецца...*

*Хай кажуць пра твой заняпад,*
*Аднак жа ў любым агародзе*
*Вядзецца парадак і лад,*
*І добра, што гэтак... І годзе!*

## Горад Боны і Давыда

*Горад Боны і Давыда*
*І не горад, а нібыта*
*Зааконнае свята,*
*Што Гарынню прыплыло;*

*Засталося, занялося*
*Вечнай раніцай у лёсе*
*І ў душы, на самым дне,*
*Цемраю не стане, не...*

*Стане радасцю жаданай,*
*«Кодаку» і мне адданай,*
*Лодку знойдзе і вясло,*
*Бо гарынскае святло!*

*Свята дасць, і ў гэтым свяце*
*Любу з Васілём у хаце*
*Зноў убачу маладых*
*І сябе навек ля іх.*

## Каровы

*І не калгас, і не кібуц,*
*А проста неба — і каровы*
*На небе воблака скубуць,*
*І золак грае пурпуровы.*

*Ці бачу сон, ці чую звон —*
*І ў той ідыліі свавольнай*
*Заўжды — з Лявоніхай Лявон,*
*А Леанід заўсёды з Вольгай...*

*Калі ж мінецца гэты сон,*
*Адчую раптам асалоду:*
*Не мёд салодкі быў спакон,*
*А быў салодкі рух да мёду...*

*І ўбачу дым, і каміны,*
*І на няшчылкай гонце сажу,*
*І пастуха з той даўніны,*
*Калі каровы скублі пашу.*

## Пакінутасць

*Дом адчыню я, а ён пусты...*
*«Дзе гаспадар твой?» — у думках спытаю.*
*«Ён у дарозе, — адкажа, — і ты*
*Ходзіш таксама? Блукаеш па краю?!»*

*«Так...» — уздыхнуўшы ці: «Гэтак...» — скажу*
*Ці не прамоўлю ніводнага слова...*
*Дом зразумее, бо мае душу,*
*Нахаладалую ў цішы лазовай.*

---

[1] «Кодак» — народная назва ў Давыд-Гарадку вуліцы Макаранкі — вуліцы майго дзяцінства.
[2] Мэльнікі — народная назва ў Давыд-Гарадку вуліцы Калініна і наогул мясцовасць на левым беразе Гарыні.
[3] Хабішча — урочышча на паўночным усходзе ад Давыд-Гарадка.
[4] Сешка — правы прыток Гарыні, цяпер возера.
[5] Няпраўда, Чартарыя — дзве назвы адной ракі, якая знікла.
[6] Вірок — яшчэ адна рачулка, якая знікла.
[7] Дуб — лодка.
[8] Пясок — мясціна на правым беразе Гарыні.
[9] Прыкрая — крутая.
[10] Шкодзіна круча — мясціна на правым беразе Гарыні.
[11] Альшанская — народная назва Савецкай вуліцы.
[12] Анатоль Вярцінскі (1931 г.) — беларускі паэт.
[13] Татарская даліна — урочышча на поўдзень ад Давыд-Гарадка.



Алесь МАКОЎСКІ

# Развод па-тутэйшаму

*Апавяданне*



Каля пад'езда старога пяціпавярховага дома на абшарпанай лаўцы, як звычайна, сядзелі пенсіянеркі. Грунтоўна, з імпэтам абмяркоўвалі жыццёвыя пытанні.

Антон Галуза вяртаўся з работы раней. Завод, дзе працаваў токарам, нярэдка прастойваў. Трыццаціпяцігадовы мужчына кінуў звыклае кароткае «здрасьце» і падаўся да дзвярэй, дастаючы на хаду ключы. Раптам пачуў:

— Нешта ж сёння занадта рана, — і следам ці то насмешлівае, ці то трошкі спалоханае: — Ай-яй-яй…

Іншым разам Антон затрымаўся б, каб перакінуцца з цікаўнымі кабетамі словам-другім. Аднак сёння быў не ў гуморы: начальства абяцала зарплату ды ашукала.

Дзверы ў кватэру аказаліся зачыненымі не толькі на замок, але і знутры — на зашчапку. Гэта ён зразумеў пасля таго, як колькі разоў пашчоўкаў замком. Тое, што жонка была дома, Антона не здзівіла: у адпачынку ж… «Навошта яшчэ і на зашчапку зачыняцца?» Толькі паспеў так падумаць, як дзверы рэзка расчыніліся насцеж — ледзь паспеў адступіцца. Следам, расчырванелая, узбуджаная, з дзікім бляскам шырока раскрытых чорных вачэй, нібы віхор, міма пранеслася яго ненаглядная Ангеліна. Толькі заўважыў поўныя беласнежныя грудзі, якія выглядалі з-пад наспех завязанага, колісь блакітнага, а цяпер бляклага паркалёвага халата.

Усё адбылося настолькі імкліва, што Антон стаяў ашаломлены, машынальна выкінуў правую нагу, а пасля і левую руку, каб перагарадзіць выхад з яго аднапакаёўкі… Каму?! Ён яшчэ нічога не ўцяміў як след. Але міма яго вужакай спрабаваў праціснуцца спалоханы хлопец. Антон ачуняў і рашуча засланіў дзвярны праём сваімі шырокімі плячамі. Спакваля апрытомнеў. Антон думаў і маўчаў. Маўчаў і думаў. Потым паказаў хлопцу на кухонныя дзверы. Той усё зразумеў. Паслухмяна, унурыўшы галаву, выканаў загад.

Антон зайшоў на кухню і ўладна загадаў няпрошанаму госцю-сапернiку: «Сядзь!» Той без лішніх слоў таропка сеў каля акна. Пасля шмаргануў шуфлядкай кухоннага стала і дастаў доўгі, вузкі нож-піку. Следам дацягнуўся да антрэсоляў, намацаў у невялікай скрыні для інструментаў брусок, на якім, наслухаўшыся жончыных папрокаў-просьбаў, вастрыў нажы. Рабіў Антон усё моўчкі, без спеху, па-гаспадарску. Грузна сеў у праёме дзвярэй. на адну з табурэтак. Другую паставіў перад сабою, паклаў брусок і пачаў вастрыць нож. Шморгаў па бруску, правяраючы час ад часу, кратаў пальцам лязо. І зноўку шморгаў, шморгаў… Злосць то адхлынала, утаймоўвалася, то ўладна паланіла.

Ужо даўно Антон стаў заўважаць змены ў Ангеліне. За яе бясконцымі скаргамі на безграшоўе і неўладкаванасць хавалася нешта большае. І гэта «большае» правілася сёння. А мажліва, яшчэ раней…

— Цябе, кныр, як клічуць? Адкуль ты зваліўся на маю галаву? — Антон адарваўся ад сваіх невясёлых думак і жахлівага занятку і апёк хлопца цяжкім паглядам.

Няшчасны страпянуўся і загаварыў таропка, блытана:

— Сяргеем завуць… Ды я не вінаваты… Тыдзень як пазнаёміліся… На возеры. Я там купаўся, загараў… Ну, і яна там была… Сказала, што разведная…

— Та-а-ак… Значыцца, разведная? — перапыніў хлопца Антон і нечакана для сябе спытаў: — Навошта табе спатрэбілася патрапаная жанчына? Хіба маладзенькіх мала? Сам жа яшчэ малакасос…

— Мне дваццаць тры, — пакрыўджаным тонам адказаў Сяргей і працягваў: — Быў жанаты… Два гады дачцэ…

— Дык і гадуй дзіця! — раз'юшыўся Антон і сціснуў нож — ажно пальцы пабялелі.

Хлопец спалохана зірнуў на непрадказальнага гаспадара і ўпалым голасам пачаў тлумачыць:

— Мяне жонка са сваім палюбоўнікам выжылі з кватэры. Выгналі на вуліцу…

— Відаць, было за што! — не стрываў Антон.

Сяргей засоп, але крыўдаваць не выпадала: не тая сітуацыя! Таму трошкі памаўчаў і даволі ўпэўнена, пераканаўча працягваў:

— Калі мы ажаніліся, мне было ўсяго васямнаццаць, а ёй — дзевятнаццаць. Яна ж не прызналася, што ў яе ёсць хлопец — сядзіць у турме! Адразу пасля вяселля мы жылі ў яе бацькоў, а пасля памерла бабуля і пакінула маёй жонцы аднапакаёўку. Туды і пераехалі. Нармальна жылі, дружна. Але неўзабаве той хлопец выйшаў на волю. Яны пачалі сустракацца… Жонка стала запрашаць яго ў госці. Неяк сказала, што таму няма дзе жыць, і пакуль ён пажыве разам з намі… Для мяне купілі раскладушку… А самі ляглі спаць на канапе. Дзіця, вядома, у калысцы…

— І?.. — не ўтрываў Антон.

Сяргей раптам пачырванеў і часта залыпаў вачыма. «Яшчэ, чаго добрага, расплачацца. Сапраўды, плюгавец», — падумаў Антон. Але хлопец ачуняў, узяў сябе ў рукі і працягваў:

— Гэны зэк яшчэ на зоне зрабіў сабе аперацыю… Ну-у-у… Гэта… Вы ведаеце, што я маю на ўвазе… Уночы я падымаўся з раскладушкі і бег у ванную. Там сядзеў і плакаў… Паўгода трываў іхнія здзекі…

— Дык узяў бы ды паслаў абаіх да д'ябла! Або зэка прыкончыў… Навошта пакутаваў? — узарваўся Антон.

Хлопец спалохана зірнуў на зусім незнаёмага яму чалавека і ціхім голасам адказаў:

— Ісці не было куды. У мяне айчым… Бацька памёр рана. Айчым мяне не любіў, крыўдзіў. Маці была на яго баку. Я саромеўся і баяўся прыйсці ды расказаць ім усё…

Антон раптам адчуў, што пякельная злосць паціху пакідае. У гэтага смаркача, думаў ён, сямейная драма куды больш складаная і пераважыць яму даўялося — о-го-го! Галуза больш пільна пачаў углядацца ў хлопца. Русы, маладжавы, рысы твару мяккія, мужчынскай суровасці і мужнасці ані на грам! «Такім цяжка жыць. Але чым жа ён прывабіў Ангеліну?! А сваёй поўнай супрацьлегласцю і крануў жаночае сэрца. Я ж не надта песціў, адараў ласкай. Але хопіць пра Ангеліну… Я выкраслю яе са свайго жыцця. Спытаю лепш хлопца: як жа ён выкруціўся са складаных варункаў лёсу?»

— Ну, і чым у вас усё скончылася? — памякчэлым голасам пацікавіўся Антон.

Хлопец зноў страпянуўся, відаць, адчуў перамену ў настроі і намерах Антона. Ён нават паспрабаваў усміхнуцца, але ўсмешка атрымалася кіслая і ненатуральная. Аднак паспакайнелы, ужо без дрыжання ў голасе, працягваў свой сумны аповед:

— Яны згаварыліся выжыць мяне з кватэры. Гэта ім лёгка аказалася. Я ж быў прапісаны ў маці, а ў яе, акрамя мяне, нікога няма: з айчымам жылі грамадзянскім шлюбам. Зэк і жонка прыгразілі, што калі не пакіну жытло, то… Я не вытрываў — пайшоў бадзяжнічаць. Урэшце патэлефанаваў маці, спытаў, ці можна мне пажыць з імі. Адразу ж сказала, каб прыязджаў: яны з айчымам разбегліся…

Хлопец змоўк. Маўчаў і Антон. У яго галаве зараіліся трывожныя думкі: як не паўтарыць шлях гэтага хлопца? Самому не застацца без свайго кутка? Разводу з Ангелінай, падобна да таго, не пазбегнуць. Суддзя, па ўсім відаць, стане на бок жонкі. І рашэнне будзе простае: сын Юрасік застанецца з маці. Адпаведна, і жытло дастанецца ім. А ён, Антон, з боку прыпёку. Ідзі бамжуй… Дык жа ў гэтага ахламона, у рэшце рэшт, маці дайшла да розуму, прытуліла. А мяне хто чакае? Ніхто!

— У цябе, кныр, грошы ёсць? — груба спытаў Антон.

Хлопец спуджана ўтаропіўся на мужчыну. Ён не адразу ўцяміў, пра што гаворка. Але хутка скеміў, падхапіўся з табурэткі і палез у кішэню зашмальцаваных джынсаў. Антону кінулася ў вочы няправільна зашпіленая сарочка. Ён крыва ўсміхнуўся.

— Грошы палічы і на стол! — загадаў сурова, не церпячы пярэчанняў.

Нявольнік дрыжачымі рукамі выцягнуў з кішэні штаноў пацёрты скураны кашалёк, прысеў і таропка пачаў лічыць грошы.

— Амаль сто тысяч, — сказаў і аблізнуў сасмяглыя губы. — Больш няма. Вось, вазьміце…

Антон згроб у жменю паперкі і сунуў у кішэню курткі. Нейкі момант маўчаў. У галаве ў яго ўжо нараджаўся план, як падстрахавацца на ўсялякі выпадак.

— Слухай, кныр, мяне ўважліва. Зараз я пайду ў краму і вазьму бутэльку гарэлкі. Цябе замкну на ключ. У мяне ёсць дзелавая прапанова. Зробіш усё як скажу — адпушчу на волю.

Сяргей нейкі час сядзеў нерухома. Пасля разабрала цікаўнасць, і ён вызірнуў у акно. Убачыў, як Антон пераходзіць вуліцу, вяртаецца з крамы. Хуценька дастаў з задняй кішэні джынсаў шкарпэткі (запхнуў іх туды, калі нечакана аб'явіўся гаспадар кватэры). Потым насунуў красоўкі і стаў чакаць.

Антон затрымаўся ў вітальні, каб зняць куртку. Раней нават забыўся пра яе: было не да гэтых дробязей. Вядома, замкнуў дзверы на ключ. На кухні дастаў з пакета гарэлку і сціплую закусь.

— Пі! — загадаў пракурорскім тонам.

Сяргей цадзіў атруту з агідай, але віду не паказваў. Антон сваю выпіў залпам. Выцер мазолістай рукою губы, панюхаў хлеб і паклаў лусту на стол. Крутнуўся і пайшоў у пакой. Зашамацеў паперамі, пасля вырваў з вучнёўскага сшытка чысты аркуш. Вярнуўся, паклаў яго і шарыкавую ручку перад носам Сяргея.

— Пішы! Я буду падказваць… Пішы!

— Што піса-а-аць?

— Усё! Хто ты ёсць: прозвішча, імя, імя па бацьку. Дзе жывеш: вуліца, нумар дома і кватэры, хатні тэлефон. Дзе і як пазнаёміўся з маёй… былой жонкай. Як апынуўся ў маёй кватэры… Давай пішы! У самым версе пазнач так: паважанаму суддзі і пракурору. Далей — як я сказаў…

Антон наліў паўчаркі гарэлкі — выпіў. Паклаў на лусту хлеба каўбасу і пайшоў у свой пакой. Са злосцю адкінуў пакамечаную прасціну і сеў на рыпучую тахту.

Пасядзеў хвілін з дзесяць, прысмаліў цыгарэту і пайшоў у ванную, дзе звычайна і курыў. Думак станавілася ўсё больш, і былі яны самымі рашучымі. Не стрываў — падаўся на кухню. Адразу загадаў:

— Пакажы, што накрэмзаў!

Почырк хлопца круглаваты, разборлівы. Усе коскі на месцы. «Граматны, кныр, і піша даволі складна» — адзначыў пра сябе Антон. Аднак тут жа ўзарваўся:

— Трэба канкрэтна пісаць, па-мужчынску! І ўвогуле, напішы, што ўсе бабы прадажныя і падступныя…

— Усялякія бываюць, — запярэчыў захмялелы і пасмялелы Сяргей.

— А твая?! Што яна з табою зрабіла? Хахаля ў ложак, а табе каленам пад зад і на вуліцу?! Не, даражэнькі… У кожнай жанчыне схаваны клубок змей.

Сяргей сумеўся і амаль шэптам прамовіў:

— Тое, што вы гаворыце, можа суддзі не спадабацца…

Антон раптам здзіўлена паглядзеў на хлопца:

— Для мяне суддзя не самае важнае. Хоць і не хочацца, як ты, апынуцца бамжом. Не на таго нарваўся. Я спуску ёй не дам. Для мяне галоўнае — сын! Майму Юрасю неўзабаве споўніцца дзесяць гадкоў. Пакуль няма сэнсу расказваць яму пра вашы справы. Не зразумее. А вось як стукне яму чатырнаццаць, тады і пакажу гэтую паперу! Ангеліна, вядома, будзе вінаваціць мяне… А я р-р-раз — і дам сыну пачытаць, што ты напісаў.

Антон зноўку ўтаропіўся ў напісанае. Цяпер чытаў няспешна і ўдумліва. Адзначыў пра сябе: гэты хлопец не такі і просты! Напісаў, што ініцыятарам знаёмства і ўсяго астатняга была Ангеліна. «Ці то баіцца мяне і хоча апраўдацца, ці так было сапраўды?..» Скончыў чытаць, паклаў ліст паперы перад Сяргеем і патрабавальна сказаў:

— Распішыся. Пастаў чысло і месяц…

Сяргей паслухмяна выканаў загад і падняў вочы на мучыцеля: што яшчэ прыдумае? Антон узяў бутэльку і наліў поўныя чаркі.

— Пі! Каб не памінаў ліхам. Я цябе сюды не запрашаў. Дарэчы… Грошы на праезд ёсць? Няма? Будзеш ехаць выпіўшы, ды яшчэ і без талона — кантралёры прычэпяцца, у міліцыю здадуць. Зараз, пачакай…

Антон пайшоў у вітальню, выграб з кішэні курткі рэшту. Вярнуўся і запіхнуў іх у нагрудную кішэню Сяргеевай сарочкі. Зноўку ці то загадаў, ці то запрасіў выпіць. Счакаў, пакуль вязень праглыне зелле і цяпер ужо груба сказаў:

— Усё. Матай, пакуль я добры.

Адамкнуў дзверы, расчыніў насцеж. Сяргей выскачыў з кватэры, нібы з парылкі: чырвоны і потны…

# Як запаліць ідэяй Бацькаўшчыны

**Новая кніга, прысвечаная народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу — зборнік артыкулаў Тамары Нуждзінай «Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы», — пабачыла свет у 2015 годзе ў выдавецтве «Про Хрысто». У апошнія гады тут былі падрыхтаваны да друку і іншыя кнігі Ніла Гілевіча, а таксама ўкладзенае паэтам своеасаблівае падагульненне педагагічнай і даследчай дзейнасці яго жонкі Ніны Гілевіч.**




Тамара Нуждзіна — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры літаратуры Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Івана Шамякіна. Тамара Сяргееўна атрымала вышэйшую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе на працягу дваццаці шасці гадоў выкладаў Ніл Гілевіч. Як кожны адметны і таленавіты педагог, Ніл Сымонавіч меў вялікі ўплыў на студэнтаў. Галоўным для яго было памкненне «запаліць ідэяй Бацькаўшчыны даверaную моладзь, абудзіць у душах пашану да гісторыі, культуры, мовы». Мяркуючы па захопленых згадках былых студэнтаў, гэта, безумоўна, атрымалася. Адной з праяў вялікай удзячнасці да Ніла Гілевіча — педагога, творцы, даследчыка, грамадскага дзеяча — стала згаданая кніга.

Выданне складаецца з двух раздзелаў. У першым — «Ніл Гілевіч і фальклор» — Тамара Нуждзіна раскрывае здольнасць паэта асіміляваць вопыт народнапесеннай паэтыкі і стылістыкі, духоўна-эстэтычны патэнцыял нацыянальнай і сусветнай класікі.

Лірыка Ніла Сымонавіча шмат у чым сугучная народнай песні, і на тое нямала прычын. «Бадай, як ніхто з беларускіх пісьменнікаў, Н. Гілевіч ведае цану моватворчаму народнаму таленту, бо ў яго асобе выдатна спалучаўся талент арыгінальнага паэта-лірыка і абазнанага ў пытаннях тэорыі і паэтыкі фальклору вучонага», — адзначае даследчыца, згадваючы высокую ўзрушанасць Ніла Гілевіча падчас першых лекцый па фальклоры, «абумоўленую непасрэдным асэнсаваннем вобразна-эстэтычнага зместу і філасофскай глыбіні народных скарбаў».

У манаграфіі «Паэтыка беларускай народнай лірыкі» (дагэтуль адной з самых чытаных на філфаку) Ніл Гілевіч падкрэсліваў, што народная песня — неацэнны скарб для паэта. Пра зварот да гэтага скарба даследчыца распавядае, аналізуючы лірыку Гілевіча 60-х — 80-х гадоў і раман «Родныя дзеці», дзе адзначае выкарыстанне фальклорных вобразаў, народных прыёмаў рытміка-інтанацыйнай стылістыкі.

Тамара Нуждзіна слушна заўважае, што даследчыкі мінулага стагоддзя пераважна цікавіліся грамадзянска-патрыятычным зместам твораў і пакідалі па-за ўвагай такую рысу таленту Ніла Гілевіча, як «услаўленне жаночага пачатку ў жыцці краіны, сям'і, у быцці мужчыны-творцы». Да адметнасці стварэння жаночых вобразаў даследчыца звяртаецца ў асобным артыкуле.

Побач з імем Ніла Гілевіча Тамара Нуждзіна згадвае Рыгора Шырму, Уладзіміра Караткевіча, Аркадзя Куляшова, падрабязна асвятляе ўплыў рускай класікі на станаўленне літаратурна-эстэтычных канцэпцый творцы. Але ў першую чаргу аўтарка засяроджваецца на паэзіі Янкі Купалы, якая жыве «дыханнем народнай песні». Рэцэпцыя Купалавай творчасці ў публіцыстыцы і эсэістыцы Ніла Гілевіча таксама разгледжана на старонках выдання.

Ніл Гілевіч — не толькі лірык, але і публіцыст, які нястомна абгрунтоўваў і абараняў будучыню Беларусі. Ён зноў і зноў нагадваў пра значнасць і прыгажосць нашай мовы — «непаўторна пявучай ад свайго раскошнага поўнагалосся, невычэрпна багатай лексічна і паслухмяна гнуткай у словазлучэннях, па-зямному, па-хатняму простай, і, як свежы бохан, цёплай і духмянай, па-язычніцку першароднай і вобразнай». Захапленне роднай мовай падмацоўвалася не толькі творчасцю, але і даследчай працай, што неаднойчы адзначала Тамара Нуждзіна.

Даследчыца звяртаецца да біяграфіі Ніла Гілевіча, і згадкі цікавых фактаў арганічна спалучаюцца з уласнымі уражаннямі і ўспамінамі. Знаходзіцца месца і праблеме рэлігіі, бо паэт прайшоў доўгі шлях ад адмаўлення Бога да натхнёнай веры. Прасачыць змены ў светапоглядзе дамагае творчасць.

Ідэя кнігі адлюстравана ў яе назве, і трэба думаць, што беларускія даследчыкі нямала дададуць да асэнсавання асобы і творчай спадчыны Ніла Гілевіча. Шэраг цікавых аспектаў падказвае і аўтар новага выдання, якое, магчыма, паспеў патрымаць у руках сам паэт...

**Юлія ШПАКОВА**

## Рагнед МАЛАХОЎСКІ:

У 2006 годзе, калі ўступаў у Саюз пісьменнікаў, мне ўпершыню пашчасціла ўбачыць Ніла Гілевіча. Ад яго зыходзіла нейкая таемная ўраўнаважанасць і глыбінная мудрасць. Калі вырашаліся спрэчныя пытанні і зала пачынала шумець, Ніл Сымонавіч уставаў — імгненна наступала цішыня. Яго словы і выраз твару заўсёды былі ўпэўненыя і пераканаўчыя. Адразу ж звяртала на сябе ўвагу, наколькі моцна паважаюць гэтага аксакала калегі. На такіх людзей хочацца раўняцца і вучыцца ў іх жыццёвай мудрасці.

Пасля ў дворыку Дома літаратара ад радасці, што далучыўся да прафесійнага творчага аб'яднання, асмеліўся прадставіцца Нілу Сымонавічу. Канечне, са школьнай праграмы я памятаў яго творы, але каб пагаварыць з жывым класікам, які не пагрэбаваў, знайшоў час на пачаткоўца, — найвялікшы гонар для мяне. Мы размаўлялі пра маю творчасць і літаратурны шлях, пра бацькоў і Нарач, пра адказнасць перад словам і патрэбу самаўдасканалення. Я адчуваў, што Ніл Сымонавіч вельмі перажывае за будучыню маладых пісьменнікаў, але чамусьці здалося, што яму самому крыху не хапае ўвагі з боку маладых.

Размова была вельмі шчырая, і я атрымаў некалькі каштоўных творчых і жыццёвых парад, якіх прытрымліваюся і па сёння. Канечне, мы перасякаліся і пазней на некаторых літаратурных мерапрыемствах, але найбольш запамінальнай была менавіта першая сустрэча, калі волат роднай літаратуры благаславіў на літаратурную працу і натхніў маладога паэта.

# «Думайма, браткі-беларусы, думайма!»

**Хоць у апошнія гады жыцця народнаму паэту Нілу Гілевічу нездаровілася, ён па-ранейшаму займаўся літаратурнай і публіцыстычнай дзейнасцю. Акрамя паэтычнай спадчыны, Ніл Сымонавіч пакінуў нам неверагодна глыбокую кнігу эсэістыкі «У віры быцця», паўнюткую мудрых думак і назіранняў, назапашаных цягам апошніх чатырох дзесяцігоддзяў. Гэта не толькі кніга-роздум са шчымлівай трывогай пра Беларусь, але і своеасаблівыя «правілы жыцця» вядомага літаратара, сапраўднага «чалавека-эпохі».**

Кнігу Ніл Гілевіч адкрывае балючай фразай: «Для навукі беларуская мова не гадзіцца!» — А для чаго гадзіцца? — пытаецца аўтар. — ...У часы Скарыны і Буднага — гадзілася, а сёння ўжо — не!.. І нагадвае «ўсім, у каго ёсць сумленне... адзін «дробязны» факт: «Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі — з агню-полымя далятаў жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: «Ратуйце! Не "спасите!", а ратуйце!».

У кнізе змешчаныя ўспаміны пра значныя падзеі грамадскага і культурнага жыцця, адлюстраваныя рэфлексіі пісьменніка, яго бачанне мінулага, цяперашняга і будучыні роднай краіны. Паэт чуйна рэагуе на сацыяльныя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі і за яе межамі, дае ім ацэнку, прагназуе развіццё нашай нацыянальнай свядомасці.

Ніл Сымонавіч гаворыць фактамі, датамі, лічбамі. Душой і сэрцам! Стагоддзямі з беларусаў выбівалі іх нацыянальную адметнасць: паслядоўна, мэтанакіравана — усімі сродкамі. «Шанцуе ж некаторым!..» — са скрухай ускліквае аўтар кнігі.

Значнае месца на старонках новага выдання адведзенае аналізу прачытанай літаратуры, айчыннай і замежнай, сучаснай і даўняй. Ніла Сымонавіча як чытача і даследчыка цікавяць тэндэнцыі і гісторыка-культурныя перадумовы стварэння тых або іншых кніг.

Па-ранейшаму важную ролю, па меркаванні паэта, у стане сучаснай нацыянальнай культуры адыгрываюць ідэалагічныя інерцыі мінулага, «рэха» камунізму. Пераадолець кансерватыўнасць савецкага часу, звярнуцца да нацыянальнай ідэнтычнасці, жыццёва неабходнай нам сёння, тут і цяпер, дзеля фарміравання будучых пакаленняў — тое, што найбольш турбуе пісьменніка:

«Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць даваць мала плёну — датуль, пакуль не пачнём гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе».

Але ж, нягледзячы на суплёт пакуль не вырашаных сацыяльных і культурных праблем, на якія ўказвае і з-за якіх перажывае народны паэт, у кнізе «У віры быцця» адчуваецца подых вясны, надзеі, аптымізму на добрую будучыню беларусаў і Беларусі.

У народнага паэта варта многаму павучыцца. Вось невялікая падборка «правілаў жыцця» Ніла Сымонавіча:

«Беларуская мова вельмі мілагучная, вымаўленне ў нас плаўнае, каля кожнага галоснага гука адзін або два зычныя. Каб у адным складзе было аж тры зычныя — такога наша мова не прымае, бо "язык зломіш". Таму даўно пара называць наш слаўны горад ва ўсходняй




Магілёўшчыне па-беларуску: Амсціслаў, а не Мсціслаў. Лёгенька, гладзенька, як у песні».

***

«Мы навучыліся жыць і карміцца з 4-х, з 6-ці, у лепшым выпадку — з 10-ці сотак. У сярэднім — з шасці. Мы — шасцісоткавая нацыя! Ура! Гэта наш нацыянальны маштаб. Больш не хочам. Маштаб нашай душы. Пры маштабах Беларусі ў два, у пяць, у дзесяць разоў большых за маштабы многіх еўрапейскіх краін».

***

«Прачытаў у друку: загінула, сышло ў нябыт каля 80 працэнтаў усіх малых рэчак Беларусі. Удумаемся: каля 80 працэнтаў! Гэта значыць, з кожных дзесяці рэчак і рэчачак васьмі не стала. З кожных дзесяці засталіся дзве. З усіх краін Еўропы (а можа, і цэлага свету) Бог выбраў сабе як самую вартую ягонай ласкі Беларусь і надзяліў яе шчодра, як ніякую іншую, самым каштоўным багаццем — рэчкамі і рэчачкамі... Але мы, беларусы, аказаліся не вартымі Боскага дару. Мы пусцілі яго на глум і пагібель».

***

З самага пачатку свайго творчага шляху народны паэт нясе крыж абаронцы ўсяго нацыянальнага, беларускага, крыж Асветніка, на сваю Галгофу толькі з адной мэтаю: абудзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў.

Тэматыка кнігі «У віры быцця» шырокая, у ёй чытач можа знайсці яшчэ многа цікавага для сябе. Адно нам трэба помніць: «Памрэ мова ў вуснах народа — памрэ і народ».

«Дык думайма, браткі-беларусы, думайма!» — заклікае Ніл Гілевіч.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Стваральнік штучных багоў

## 5 найбольш значных кніг Юрыя Станкевіча

Юры Станкевіч з тых аўтараў, якія нічога не прыдумляюць. Нават калі пішуць фантастычны раман. Нават калі з іншапланецянамі. Персанажы Станкевіча жывуць у адной і той жа рэальнасці, а кожны твор аўтара працягвае папярэдняе. Па вялікім рахунку, Юры Станкевіч увесь час кажа пра адно і тое ж, а паўторы ў такім выпадку непазбежныя. Гэта можна лёгка дараваць, калі вельмі любіш пісьменніка. Або калі разумееш, што інакш ён не можа. Так, магістральны раман «Любіць ноч — права пацукоў» знайшоў своеасаблівы працяг у антыўтопіях «Эрыніі» і «П'яўка». Безумоўна, у мастацкіх адносінах творы аўтара (асабліва апавяданні) не заўсёды раўназначныя, але і назваць іх прахаднымі ўсё ж не даводзіцца. Кожная наступная кніга ўдакладняе і дапаўняе папярэднюю, сведчыць пра пастаянны рух мастацкай свядомасці і абвостранае адчуванне пульсу часу.

У большасці твораў Юры Станкевіч не пакідае чалавеку шансаў на выратаванне. Але гэта заканамерна: духоўныя спусташэнцы гістарычнай будучыні не маюць. Нягледзячы на неспрыяльныя жыццёвыя абставіны і няспынныя паразы лёсу, персанажы пісьменніка да апошняга трымаюць абарону ўласных прынцыпаў, без чаго не пачуваюць сябе паўнавартаснымі прадстаўнікамі чалавечага роду ў цэлым і сваёй нацыі ў прыватнасці (аповесці «Лавец святла поўні», «Партрэт выпускніка на фоне "адлігі"», «Пераход»). Нават у фантастычных творах, дзе аўтар, грунтуючыся на навуковых даследаваннях, сцвярджае, што наш сусвет — усяго толькі дэкарацыя, гучыць голас у абарону чалавечага ў чалавеку, адчуваецца надзея на перамогу дабра і справядлівасці, праўды і маралі, натуральнай логікі прыроды... Пісьменнік вядзе непрымірымую барацьбу з псеўдай (знешняй і ўнутранай), ілжывападманнымі дэкарацыямі гістарычнага шляху, паколькі ў іх чалавек паступова часам страчвае пачуццё рэальнасці, ператвараючыся ў паслухмяную ляльку незвышнатуральных сіл.

Асоба Юрыя Станкевіча ў беларускай літаратуры выклікае спрэчкі. Яго называлі і ненавіснікам жанчын, і расістам, і ультраправым. Але пры ўсім гэтым нават самыя строгія крытыкі не адмаўляюць яго пісьменніцкі талент. Новая кніга Юрыя Станкевіча «Паўночны вецер для спелых пладоў» таксама выклікала нямала супярэчлівых меркаванняў, бо і тэма, якую закрануў пісьменнік, вечная і заўсёды актуальная — каханне.

Раман «Паўночны вецер для спелых пладоў» — пра далёкія студэнцкія гады і каханне — нечакана пераклікаецца з сучаснасцю. Дзеянне прапанаваных аповесцей адбываецца як у мінулым, так і ў будучыні, і тая будучыня цяпер падаецца аўтарам на мяжы фантастыкі і прыпавесці. Некалькі вострасюжэтных апавяданняў толькі дадаюць і разгортваюць асноўныя тэмы творчасці пісьменніка, найважнейшая з якіх — нацыянальнае самавызначэнне.

Але каб да канца разабрацца ў творчасці Юрыя Станкевіча, зразумець, пра што і для каго ён піша, нельга абмінуць увагай яго папярэднія творы.

У багажы пісьменніка шмат адметных апавяданняў, у якіх даследуюцца сутнасць фізічных магчымасцей чалавека, межы яго падзення, а таксама прырода страху, псіхалагічных адхіленняў, грамадскіх катаклізмаў і экстрэмальных будняў, дзе пастаянна даводзіцца адстойваць права на жыццё, нават з незайздросным фіналам. Я выбрала пяць найбольш значных кніг у творчасці аўтара, на якія раю звярнуць увагу, калі вы раней гэтага не зрабілі.

### 1. «Любіць ноч — права пацукоў» (1998)

Цемра ахоплівае ўсё навокал.

І невядома, як з ёй змагацца, бо кожная барацьба пачынаецца з сябе, з прыняцця нейкага вельмі важнага рашэння, з вызначэння, хто ты такі і на што здатны. А задаваць сабе складаныя пытанні і тым больш шукаць на іх адказы людзі не вельмі любяць. Прынамсі, прызвычаіцца можна да любых складаных умоў. Абы не горш! Цяжка было выбраць больш зручны момант для чытання — бо ў той час, як Еўропа шукае выйсця з сітуацыі з нелегаламі, у кнізе Станкевіча «бежанцы» ўжо засяліліся, прыжыліся, захапілі «жыццёвую




прастору» і пераўтварыліся ў гаспадароў невялічкага правінцыйнага горада, куды прынеслі бруд, смецце, наркату і крыміналь. Але гэта толькі на першы погляд. Бо чужынцы нездарма не называюцца па імені, а сітуацыю пры ўсёй канкрэтнасці падзей трэба ўсё ж такі ўспрымаць хутчэй як прыпавесць і папярэджанне. Ды хто іх слухае...

Праблема не ў чужынцах, зразумела; праблема ў нас. Бо, як казалі яшчэ героі Караткевіча, «У нас — толькі магілы. Толькі адны магілы, раскіданыя па гэтай зямлі». Еднасць — міф, любоў і павага — міф. І толькі «мая хата з краю» і «кожны сам за сябе» — сумная рэчаіснасць. Калі надыходзіць бяда, змагацца з ёй, шукаць справядлівасці даводзіцца ўласнымі сіламі. Гэта калі яны ўвогуле ёсць, бо Даніла з рамана — гэта звышчалавек, якіх сустракаюцца адзінкі. Такія не ўцякаюць, падціснуўшы хвост, не пагаджаюцца з мацнейшымі, не мірацца са злыбядой. Яны дзейнічаюць і так часцяком перамагаюць. Але перамога па выніку падаецца штучнай і тэрміновай. Пераможцы ў бойцы не ёсць пераможцы ў вайне.

Змрочны раман. Але гэта бескампрамісная пяцёрка. За шчырасць, за вытанчанае балансаванне на грані моцы і дрэннага густу, за ўзняцце такіх балючых, няёмкіх і такіх важных пытанняў, за актуальнасць, бо мастацтва дзеля мастацтва — гэта мярцвячына і пустаслоўе. І, як бы там ні было, надзея яшчэ ёсць!

### 2. «Апладненне ёлупа» (2005)




Пра які ж страшны свет піша Юры Станкевіч? І што з таго, што гэта быццам бы фантастыка (іншапланецяне, біяробаты, хранальны сінтэзатар)? Успрымаецца ўсё гэта як абсалютная рэальнасць. Станкевіч вельмі маштабны. Яго погляд не звужаецца да самакапання асобна ўзятага чалавека (хоць камусьці гэта самакапанне падабаецца), яго мараль — у маштабах нацыі, расы, чалавецтва. Адкуль мы наогул узяліся на гэтай планеце, хто кіруе ўсім, што адбывалася? Ці адны мы ў Сусвеце? Вось размах Станкевіча, не менш. Але, падкрэслю, Станкевіч піша пра сённяшніх нас, пра мноства хвароб і заган грамадства. Зямляне — гэта эксперымент, прычым няўдалы. Паводле Станкевіча, гэта ўсё можа ў любы момант спыніцца адным націскам кнопкі.

### 3. «Мільярд udараў» (2008)

Гэты зборнік Юрыя Станкевіча мяне ўсё-такі расчараваў. Творы, якія складаюць яго, не шэдэўры: сюжэт невыразны, кампазіцыя правісае, думкі не новыя. Без прыправы кіберпанку або постапакаліпсіса, без лёгкага фантастычнага апраўлення проза Станкевіча можа пакінуць на рэдкасць цяжкае ўражанне. Адкрытая ксенафобія аўтара, яго нецярпімасць і радыкалізм, унікальная здольнасць бачыць вакол бруд, дэградацыю і ўбоства




не ўсім будуць да густу. Я ўжо не кажу пра тое, што гэта проста страшна. Менш за ўсё хочацца жыць у такім свеце, але што, калі ён і праўда такі? Тым не менш заклікі, якія гучаць паміж радкоў (а дзе-ндзе і прама) — са зброяй у руках абараняць сваю зямлю ад «чорнай набрыдзі» — некалькі стамляюць. Хоць узнікае павага да Станкевіча і за тое, што ён так цвёрда адстойвае сваю пазіцыю.

Аповесці ў зборніку не асабліва ўразілі. «Эрыніі» — тыповы для творцы тэкст, які чымсьці нагадвае паменшаную копію яго праграмнага рамана «Любіць ноч — права пацукоў». Жудасная правінцыя, невыразныя звесткі пра катастрофу, налёт містыкі. Спадабалася, што галоўны герой не забяспечаны белым плашчом пасярод усеагульнага раскладання.

«Партрэт выпускніка на фоне» адлігі падаўся вельмі асабістым. Сентыментальнае падарожжа ў мінулае, амаль лірычны ўспамін — трохі сумнае, але больш абыякава. Нечаканая яркая сексуальная сцэна, што не так ужо часта сустрэнеш у беларускай літаратуры, нават і сучаснай.

Пагадняюць са зборнікам апавяданні. Амаль усе даволі цікаўныя, з моцным сюжэтам і выразным завяршэннем. У іх шмат горкай іроніі лёсу і безвыходнасці. Таму яшчэ ярчэй бліснуў светлы прамень ад апавядання «Кармушка для сініц» — раптам добрага, наіўнага, якое дорыць надзею.

### 4. «П'яўка» (2010)

Тут Станкевіч, як заўжды, сабе не здрадзіў. Мне здаецца нават, што свет, намаляваны ў «П'яўцы», — гэта найгоршы варыянт развіцця падзей пасля «Любіць ноч — права пацукоў».




У любым выпадку атмасфера і настрой гэтых раманаў надта падобныя. Праўда, у «П'яўцы» няма ніякай надзеі на светлую будучыню. І самі героі гэта ўсведамляюць. Нават у дзеяннях самых апантаных ідэяй барацьбы не відаць намеру звергнуць «людзей-ценяў», змяніць існуючы ўклад жыцця. Усё, чаго яны жадаюць, — гэта паказаць, што супраціўленне існуе. Сама ідэя існавання сімуляцыі падаецца цікавай, ды Станкевіч зрабіў акцэнт на падзейны бок, і тут крыху больш тэорыі не зашкодзіла б. Чаго не скажаш пра дыялогі герояў, якія часам нагадвалі сумныя лекцыі.

Абцяжараныя ўскладненымі канструкцыямі рэплікі неяк не пасуюць эмацыянальнай размове таварышаў пра надзённае. Хаця і эмацыянальнасці героям не стае. Нават каханне паміж Берташам і Мойрай узнікае неяк беспадстаўна, з ніадкуль. Тое ж самае можна сказаць і пра астатніх. Не хапае ярка выражаных пачуццяў — нянавісці, адчаю, жорсткасці, якія абавязкова павінны былі з'явіцца пры тым развіцці падзей, што адбываецца ў рамане. Пры гэтым нельга сказаць, што кніга прайшла незаўважна, без эмоцый. На некаторых старонках, шчыра кажучы, не абышлося без мурашак па скуры! Рысы грамадства, створанага Станкевічам у «П'яўцы», пачынаюць уяўляцца ў сучасным укладзе жыцця. Прычым, калі чытаеш, чамусьці не здзіўляешся гэтаму, а прымаеш як належнае.

### 5. «Брамнік заўжды самотны» (2014)




Цэнтральная аповесць падалася ці не найслабейшай рэччу з усёй кнігі. Некалі хтосьці з крытыкаў зазначаў, што Станкевіч піша вельмі «па-тэлевізійнаму». Мушу пагадзіцца. Можна проста браць і здымаць па творах кіно. Для айчыннага тэлебачання, а можа, Галівуда, няважна. Сюжэт ёсць, а вось мастацкасці бракуе. Занадта ўсё механічна ды і банальна складваецца ў «Брамніку заўжды самотны». А вось апавяданні ёсць сапраўды цікавыя. Узяць хоць бы «Восаў», «Сіцылійскую партыю» — праўда, гэтыя два творы напісаныя яшчэ ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х. Ну і, канечне, «Лаўцы верхаводак». Каб у «Лаўцах» Юры Станкевіч не дадаў сваіх любімых «чурак», то з апавядання, падаецца, мог бы атрымацца сапраўдны шэдэўр!

Юры Станкевіч не баіцца глядзець ні на ўнутраны свет чалавека, які не ў стане адшукаць паратунак ад самога сябе, ні наперад, у аддаленую перспектыву, якая, дзякуючы недасканалай людской натуры, не абяцае нічога прыемнага. Абвастраючы жыццёвыя канфлікты, пісьменнік абвастрае наша разуменне навакольнай рэчаіснасці, наканаванага і непазбежнага, чаму, хоць і бессэнсоўна супрацьстаяць, але неабходна — дзеля годнага апраўдання сваёй часовай зямной прысутнасці. Таму давайце разам з гэтым цікавым аўтарам смела глядзець у заўтра, якое з'яўляецца праекцыяй кожнага з нас, стваральнікаў штучных багоў і дэкарацый.

Дар'я ЛАТЫШАВА

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»*
*і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі*

Кніжны свет

8 красавіка 2016 г.

# Стымул для ўчынкаў

## Усе нягоды — як выпрабаванне на трываласць



*Арына Ястраб — жонка і галоўны захавальнік спадчыны мастака і паэта.*

**Мы прыходзім на Зямлю, каб пакінуць свой след. Але не кожны разумее, што чалавек павінен ствараць, а не быць пасіўным назіральнікам. Не для славы, а для таго, каб палепшыць свет, напоўніць жыццё сэнсам. І калі навукоўцы вынаходзяць лекі ад цяжкіх хвароб цела, то мастакі — ад немачы душы.**

Вечар, прысвечаны таленавітаму жывапісцу, паэту, вядомаму галерысту і мастацтвазнаўцу Фёдару Ястрабу, чалавеку, неабыякаваму да лёсу беларускага мастацтва, адбыўся ў кнігарні «Галіяфы». Прэзентаваная трэцяя кніга з пяцітомніка яго санетаў, напісаных, па распараджэнні лёсу, толькі ў перадапошні год жыцця, — «Жыццё як час сарванай ружы». Раней былі выдадзеныя першы і другі зборнікі — «Абяцанне сноў» і «Вясёлкавы след».

Адкрылася таксама выстаўка жывапісных твораў майстра, якога прылічваюць да неасімвалістаў з яркай сучаснай стылістыкай, індывідуальным почыркам. У палотнах шмат дэталяў, на іх можна глядзець вельмі доўга, вышукваць розныя бакі і сэнсы, пашыраць межы асабістай свядомасці, на створаным мастаком «каўчэгу» адплываць у іншую рэчаіснасць… Колеры разнастайныя, але не крыклівыя, а высакародна прыглушаныя. Дэкаратыўнасць, лёгкасць пераклікаюцца з манументальнасцю. Усе працы глыбокія, як лабірынты розуму. У іх шмат міфалогіі, гісторыі, легенд. Яркая рыса ўсёй творчасці — глыбокая, душэўная сувязь з беларускай культурай. Хоць творцу добра ведаюць і ў Еўропе.



*Кожны зборнік санетаў знойдзе свайго гаспадара.*

Зусім хутка будзе запісаны дыск з лірыкай Фёдара Ястраба. Па яго творах планавалася нават паставіць спектакль з жывым аркестрам. Абавязкова выйдзе зборнік, які ўключае ўсе санеты. Магчыма, ён возьме назву ад адной з карцін — «Знакі Хронаса». Задумка павінна спраўдзіцца не без падтрымкі (як і пры выхадзе папярэдніх кніг) Беларускага народнага банка і ўсяго мастацкага асяроддзя. Калі знойдзецца шмат неабыякавых людзей, магчыма, запрацуе нават музей творцы — на яго радзіме…

За год Фёдарам Ястрабам было напісана каля тысячы ёмістых, рамантычных, філасофскіх вершаў-песень. Лічба неверагодная. Кожнае слова — жывы вобраз. Такое пачуццё, што ён выкарыстоўваў не літары, а фарбы. Творчы дыяпазон гэтага чалавека і дзівіць, і натхняе. Міжволі ўзнікае пытанне: а што зрабіў у жыцці я? Ён мог збіраць вакол сябе людзей, рабіць тое, на што шмат каму не хапіла б смеласці і сіл. Наогул не мог без працы! Нават тады, калі цяжкая і вельмі рэдкая хвароба, якую вылечыць не змаглі (хоць актыўна збіралі сродкі і мастакі-калегі, і сябры), ужо завалодала ім.

Фёдар Ястраб курыраваў каля 80 вялікіх мастацкіх праектаў (у тым ліку фестываль мастацтва «*Terra Nova*», біенале сучаснага жывапісу «*Colorfest*», выстаўку графікі «Арт-лінія»), узяў удзел у больш чым 110 міжнародных, рэспубліканскіх выстаўках, правёў 12 аўтарскіх вернісажаў. Прадстаўляў багацце беларускага мастацтва ў іншых краінах. Падтрымліваў праект, прысвечаны аўтсайдарскому мастацтву. Стварыў Міжнародную гільдыю жывапісцаў. Ён увесь час шукаў новыя шляхі для выказвання ідэй, яго хапала на ўсё, ён быў шчаслівы ў бясконцым руху.

Фёдар Адамавіч не толькі паэт. Ён аўтар мноства артыкулаў, у якіх распавядаецца аб праблемах беларускага выяўленчага мастацтва, у тым ліку існаванне арт-рынку ў эпоху крызісу, працэс укаранення культуры ў сацыяльную прастору, галерэйную дзейнасць. Фёдар Ястраб быў арт-дырэктарам галерэйна-выставачнага комплексу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і здолеў разбіць стэрэатыпнае ўяўленне пра тое, што кніжніца — кансерватыўнае месца, а не цэнтр, дзе кіпіць культурнае жыццё.

Здавалася б, зусім нядаўна ён узяў у рукі свой першы альбом для малявання, які падарыла матуля. Яна таксама была звязаная з творчасцю: прыдумляла мадэлі адзення, выдатна шыла. Мадэльерам была і цётка з Францыі. А вось бацька ды дзядуля Фёдара захапляліся жывапісам. Нарадзіўшыся ў Нарачанскім краі, дзе прырода сама па сабе маляўнічая, аўтар не імкнуўся адлюстраваць яе ў сваіх карцінах, бо лічыў, што атрымліваць асалоду ад пейзажаў трэба ўжывую. Ён увогуле праціўнік фатаграфічнага, калькіраванага жывапісу. Сучаснае мастацтва для яго — гэта паступовыя развагі, адкрыццё кожнай працы з розных бакоў, а не «выбух» у лоб кшталту: глядзіце, тут намалявана дрэва, а тут — рэчка. Фёдар Ястраб заўсёды прапаноўваў гледачам паразважаць, папрацаваць з асацыяцыямі, метафарамі.

Пачынаючы, ён, як і ўсе, прайшоў праз мноства цяжкасцей, рабіў памылкі, але выпраўляў усё самастойна і не сыходзіў з выбранага шляху. Так выкрышталізоўваўся моцны характар. Цвёрды, мужны, валявы. Усе нягоды ён прымаў як выпрабаванне на трываласць. Яго жыццё — прыклад для маладых творцаў, якія часам замест таго, каб прыкладаць намаганні, спадзяюцца на цуд ці пастаянную падтрымку.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

*На паліцы*

# Стыхійнае сэрца

Каханне ва ўсіх праявах — гэта тое, што нас лечыць і натхняе, пяшчотна ці жорстка, матывуе, вучыць і, урэшці, надае сіл. Пра гэта шматграннае пачуццё глыбока і пранікнёна распавядае зборнік вершаў Юрыя Сапажкова «Дай полымю ля полымя астыць», які выйшаў у выдавецтве «Беларускі Дом друку». У маленькай па аб'ёме, але вялікай па змесце кніжачцы з ілюстрацыямі Веры Ягоўдзік — творы розных гадоў майстра, які здолеў апісаць тое, пра што стагоддзямі марояць творцы, вельмі трапна, шчыра, праўдзіва.

Вершы, нягледзячы на адзіную тэму, розныя па танальнасці, сэнсе: пранізліва сумныя, філасофска-даследчыя, іранічна-лёгкія, парадаксальна сімвалічныя. Юрый Сапажкоў лічыў, што галоўнае ў кожным творы — гэта думка. Яго творы глыбокія, дакладныя. Бывае, не з першага разу зразумееш. Але пройдзе пару імгненняў — і ўбачыш, адчуеш схаванае, здзівішся: як у некалькіх сказах можна змясціць столькі сэнсу?

Паэт смела дзеліцца патаемным, асабістым, таму кніга становіцца роднай, блізкай. Ён не проста кажа пра каханне, а вучыць: ставіцца да кожнага дня з удзячнасцю, марыць, здзяйсняць учынкі. Гэта кніга пра рыцара, які здаецца перад крэпасцю жаночай прыгажосці, але «хуткай вавёркай» па «верхавінах карабельных соснаў» умомант пераадольвае прорву, што зараджаецца паміж двума сэрцамі. Жанчына для яго нібы малітва, нябесная з'ява, гаючы напой, неспакойная і таемная музыка прыроды: «Печалится — я вижу гор громады, / Подернутые дымной синевой, / Смеется — и шальные водопады / Срываются весенней крутизной».

Мы часта перагортваем дні як старонкі, а Юрый Сапажкоў беражліва запамінае імгненні, захоўвае іх, як гербарый, які ў вершах ператвараецца ў жывыя кветкі. «Уключы ўяўленне», — быццам прапаноўвае ён. І гэта працуе. Таму што вобразы, якія паэт падбірае для метафар, не могуць не абудзіць.

Лятучы прысмак горычы на вуснах змешваецца ў яго з па-дзіцячы ўпартым чаканнем цудаў, марамі пра забароненае. У чорным небе шалёна і ясна квітнеюць маланкі — яшчэ адно ўвасабленне супярэчлівай жаночай сутнасці.

Каханне ў кнізе выступае не толькі ў класічным варыянце «мужчына — жанчына», але і ў іншых, можна сказаць, біблейскіх, выявах: напрыклад, велікадушнасці. Аўтар заклікае вызваліць душу ад зла, не адказваць на крыўду помстай, быць вышэй.

Паэзія Юрыя Сапажкова ачышчае. Нягледзячы на тое, што сумных матываў мноства. У выглядзе пакутлівага чакання званкоў і новых сустрэч, рэўнасці, што ператвараецца ў павелічальнае шкло, абыякавасці, якая забівае пачуцці…

Чытанне не простае. У прадмове, на вокладцы, цытата аўтара, якая як бы рыхтуе да зместу і канчатковаму эфекту. Паэт упэўнены, што адзін дзень можа перавярнуць усё жыццё. А кніга? Калі не жыццё, то светапогляд — дакладна!

Бываюць такія вершы, дзе быццам і прыгожы склад, пяшчотная рыфма, але столькі мудрагелістых нагрувашчванняў, канструкцый, што да канца апошняга радка забываеш, з чаго пачынаў. Юрый Сапажкоў не перагружае свае вершы, але разам з тым у кожным з іх, нават самым маленькім, цэлы «аркестр» матываў. «У твоего подъезда одиноко, / С упорным постоянством фонаря / Стою я перед трибуналом окон, / Многоэтажно судящих меня». Ёміста, з гэтакім сумным гумарам. Мы часта дамагаемся тых, хто нас не заўважае, — у гэтым іронія пачуццяў. Дарэчы, Юрый Сапажкоў вельмі ўмела паказвае іх градацыю — ад сляпой нявіннай пяшчоты да грахоўнай страсці, якая і камень абудзіць, і попел разварушыць.

Цікава даследуе аўтар яшчэ адну праяву — дружбу пасля кахання. У некалькіх вершах трапна параўноўвае яе з поціскам рук у лямцавых пальчатках, трохтоннай ласкай волатаў, зборам падаткаў і маскарадам з аголенымі поглядамі... Але ён упэўнены, што, губляючы, мы становімся больш багатымі, а вершы не нарадзіліся б без страт, паражэнняў і болю. Як на сухой зямлі не з'явіліся б парасткі.

*Любовь исчезла, полыхнув, хотя*
*Любое сердце живо чудесами,*
*И я за ней еще спешу стихами,*
*Ее по следу боли находя.*

Але гэтая боль жывая, патрэбная. Юрыю Сапажкову ўдалося сумясціць у адно цэлае дзве стыхіі — каханне і розум.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Буквар — шрыфтам Брайля

## Падручнікі ў «Народнай асвеце» імкнуцца зрабіць захапляльнымі

**Выдавецтва «Народная асвета» ведаюць па многіх кірунках дзейнасці. Асаблівае месца ў спектры выдавецкай прадукцыі займае вучэбная літаратура для спецыяльных (карэкцыйных) устаноў адукацыі, адрасаваная дзецям з парушэннямі слыху, маўлення, інтэлекту і зроку. Адна з такіх кніг — дапаможнік для педагогаў цэнтраў карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі «Дыдактычнае забеспячэнне карэкцыйнай дапамогі дзецям з аўтыстычнымі парушэннямі».**




Фота Кастуся Дробава.

У 1996 годзе была створана рэдакцыя па выпуску выданняў шрыфтам Брайля, якую ўзначальвае Таццяна Бялінская.

— У 2000 годзе пабачыў свет першы беларускі буквар, напісаны шрыфтам Брайля (аўтар кнігі — Надзея Сторажава) і выдадзены на полістыроле з ілюстрацыямі ды схемамі. Праз год буквар быў удастоены спецыяльнага дыплома конкурсу «Мастацтва кнігі». Адзін яго асобнік захоўваецца ў Музеі беларускага кнігадрукавання ў Полацку, — дзеліцца ўспамінамі Таццяна Сяргееўна.

Як зазначыла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падчас юбілейнай імпрэзы ў Доме прэсы з нагоды 65-годдзя «Народнай асветы», развіццё суверэннай краіны немагчыма без высакаякаснай нацыянальнай адукацыі, без добра адпрацаванай сістэмы выдання падручнікаў для агульнаадукацыйнай, спецыяльнай і вышэйшай школы. А ў «Народнай асвеце» такая сістэма якраз наладжана: тут працуе каманда прафесіяналаў-аднадумцаў, знаўцаў сваёй справы. У розныя часы выдавецтва ўзначальвалі вядомыя дзеячы культуры Уладзімір Ляўданскі, Уладзімір Ляпёшкін, Ігар Лапцёнак, Ларыса Мінько. Цяпер на чале калектыву — Вікторыя Калістратава, якая таксама мае досвед выдавецкай дзейнасці.

Некаторыя супрацоўнікі прысвяцілі выдавецтву не адзін дзясятак гадоў. Напрыклад, галоўны рэдактар Алена Літвіновіч — амаль тры дзесяцігоддзі! З чаго ж усё пачыналася?

— 1 красавіка 1951 года пастановай Савета Міністраў БССР было заснавана Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва, якое мела забеспячэнне школ літаратурай, неабходнай для адукацыйнага працэсу. Гэты напрамак дзейнасці «Народнай асветы» застаецца вядучым і сёння, — распавядае Алена Уладзіміраўна.

Сваю цяперашнюю назву выдавецтва атрымала ў 1963-м. За 65 год яго існавання тут пабачылі свет тысячы кніг: ад падручнікаў да навукова-папулярнай і мастацкай літаратуры. З канца мінулага года тут адроджана серыя «Школьныя слоўнікі». У яе межах ужо выйшлі «Школьны слоўнік па гісторыі Беларусі (VI — IX класы)» Вячаслава Лазіцкага і Сяргея Панова, «Школьны слоўнік словазлучэнняў рускай мовы» і «Школьны арфаграфічны слоўнік рускай мовы» Алены Грабчыкавай.

У «Народнай асвеце» працуюць людзі з рознай спецыялізацыяй. Так, загадчык рэдакцыі метадычнай падрыхтоўкі выданняў Галіна Бабаева па адукацыі географ і біёлаг. Таму яе вельмі вабіць рэдагаванне вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратуры адпаведнага профілю.

— Асаблівую ўвагу надаю метадычнай частцы — пытанням і заданням, — зазначае Галіна Аляксандраўна. — Неабходна прасачыць, каб ілюстрацыйны, метадычны і тэкставы матэрыял у падручніку ці вучэбным дапаможніку спалучаліся дакладна. А пры выданні дапаможнікаў і падручнікаў для спецыяльнай школы імкнёмся да таго, каб матэрыял, часам даволі складаны, быў пададзены не толькі навукова, але даступна і захапляльна.

Кнігі, асабліва дзіцячыя, «Народная асвета» выпускае цэлымі серыямі, у ліку якіх вылучаюцца, напрыклад, «Казкі для вундэркіндаў».

— Аўтар кніг гэтай серыі — настаўніца пачатковых класаў Ірына Токарава, — распавяла загадчык рэдакцыі літаратурнай падрыхтоўкі выданняў Ганна Алешка. — Адна з кніг, што рыхтуюцца да выдання, — пра тое, як правільна збіраць смецце, другая — як рацыянальна карыстацца фінансамі… Атрымалася захапляльна, цікава і займальна — сапраўды, серыя для вундэркіндаў! Цікавы і кожны новы падручнік — па геаграфіі, гісторыі, іншых прадметах. Адметнай сталася серыя «Бібліятэка Асветыка».

— Вельмі важна, каб змястоўным быў не толькі тэкст, але і мастацкая частка, — працягвае загадчык рэдакцыі мастацка-графічнага афармлення выданняў Уладзімір Жук. — Возьмем для прыкладу кнігу Міколы Чарняўскага «Матуля Шо, дачушка Шоша». Мікалай Мікалаевіч прынёс вершы пра рэкі роднага краю, а мне ўспомнілася, што вельмі добрыя выявы рэк ёсць у фотамастака Анатоля Дрыбаса. Усё гэта мы спалучылі — і кніга атрымалася цудоўнай! Якасць аўтарскага тэксту немалаважная і для мастака. Таму не менш цікавае і яшчэ адно выданне гэтага ж пісьменніка — «Дзе схаваўся цень удзень?» з акварэльнымі ілюстрацыямі Валянціна Макаранкі.

**Мікола Чарняўскі, пісьменнік:**

— Радуе, што вялікую ўвагу «Народная асвета» надае запаўненню лакуны ў выданні літаратуры для дзяцей. Калі раней такім кнігам бракавала мастацкага афармлення, то цяпер яны выходзяць у свет у паўнаколерным варыянце. А зацікавіць дзіця кнігай і чытаннем у век высокіх тэхналогій асабліва важна.

**Людміла Кебіч, пісьменніца, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ:**

— Тры гады таму я ўпершыню пераступіла парог «Народнай асветы». Уразіла, наколькі сур'ёзна і адказна падыходзяць да справы тыя, хто тут працуе. У выніку стасункаў нашага аддзялення з гэтым выдавецтвам выйшлі дзве дзіцячыя кнігі Таццяны Сучковай, «Мішка-прывід» Ганны Скаржынскай-Савіцкай, а яшчэ мая асабістая — «Як Алеся пальчыкі лічыла». Супрацоўнічаць з калектывам такіх удумлівых і ўважлівых людзей вельмі прыемна!

**Яна ЯВІЧ**

Аўтарытэты

# Вялікая прыгода ў археалогіі

**Ён адкрыў больш як паўтысячы новых археалагічных помнікаў, фактычна з нуля распрацаваў канцэпцыю нёманскай неалітычнай культуры, якая атрымала міжнароднае прызнанне і нават сёння, праз 40 гадоў, застаецца слушнай, даследаваў панямонскія раўніны і пагоркі, вывучаў многія ўнікальныя для Беларусі і ўсёй Усходняй Еўропы помнікі.**




*Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў міжрэчча Віслы і Дняпра: Зборнік навуковых артыкулаў памяці Міхала Чарняўскага. — Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015. — 288 с.*

Пералік адкрыццяў, распрацовак знанага археолага, кандыдата гістарычных навук Міхала Чарняўскага можна доўжыць і доўжыць. Зборнік артыкулаў «Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў міжрэчча Віслы і Дняпра» — даніна памяці гэтага выдатнага даследчыка. Кніга сталася вынікам навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў скакавіку 2013 года ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь і была прымеркавана да 75-годдзя Міхала Чарняўскага. На жаль, сам даследчык пайшоў з жыцця за паўтара месяца да свайго юбілею… У зборніку змешчаны і апошні прыжыццёвы тэкст Міхала Міхайлавіча — тэзісы даклада, які ён збіраўся прадставіць на канферэнцыі.

Натуральна і заканамерна, што ў змесце новага зборніка важнае месца займаюць артыкулы, прысвечаныя асобе і ўнёску Міхала Чарняўскага ў айчынную археалогію. Ён працаваў у час, калі перад даследчыкам адкрывалася новая, бясконцая і часам нечаканая мінуўшчына краю. Калі праца археолага вабіла таямніцамі і загадкамі, калі навуковец трапляў у неабсяжныя прасторы мінулых стагоддзяў. Можа, дзякуючы гэтай прыцягальнай рамантычнасці прафесіі археолага, магчымасці вывучаць старое, але адкрываць у ім новае і нечаканае наша краіна і атрымала такога выбітнага даследчыка. Дарэчы, спачатку Міхал Чарняўскі захапіўся геалогіяй, але потым усё ж вырашыў прысвяціць жыццё археалогіі.

Зборнік «Супольнасці каменнага і бронзавага вякоў міжрэчча Віслы і Дняпра» змяшчае артыкулы навукоўцаў з Беларусі, Польшчы і Расіі. У гэтых работах прадстаўляюцца вынікі археалагічных даследаванняў, што ў розныя гады праводзіліся непадалёк ад Моталя, на Падзвінні, Пасожжы, Падняпроўі, Панямонні. Фактычна гэта разгляд тэрыторыі нашай краіны з пункту гледжання распаўсюджання асобных археалагічных культур. Таму выданне, безумоўна, будзе карыснае спецыялістам-археолагам, студэнтам і аспірантам. Але можна сцвярджаць, што і шараговы чытач, які цікавіцца мінуўшчынай нашага краю, не будзе расчараваны зместам кнігі.



*Археолаг Міхал Чарняўскі падчас разведкі, пачатак 1970-х гадоў.*

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*У пісьменніцкім асяродку*

# «Славянскі калейдаскоп» і… вершы з гумарам

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў IV літаратурнага конкурсу сярод студэнтаў БДУ «Славянскі калейдаскоп», прымеркаванага да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі ды 95-годдзя БДУ, адбылася ў Доме Масквы.

Сёлета творчае спаборніцтва праходзіла па дзевяці намінацыях. Журы ўзначальваў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. У конкурсе ўзялі ўдзел больш як 40 студэнтаў розных факультэтаў БДУ, прычым кожны меў магчымасць удзельнічаць адразу ў некалькіх намінацыях. Так, лепшай у намінацыі «*Vivat Alma Mater*» стала студэнтка Інстытута журналістыкі Фаіна Наканечная, якая разам са студэнткай філалагічнага факультэта Алінай Карпіцкай перамагла і ў намінацыі «Сям'я — мой вастраў шчасця».

Арганізатары конкурсу — Фундаментальная бібліятэка БДУ, Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, культурна-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Наша Русь», Саюз жанчын БДУ.

Сталася адметнай чарговая пастаноўка Мінскага гарадскога тэатра паэзіі — спектакль па творчасці паэта Анатоля Аўруціна «Кого я в юности любил… Или шестьдесят стихотворений о любви», які можна было пагледзець у Мінскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.

Лірычныя радкі Анатоля Аўруціна прагучалі ў выкананні акцёраў народнага тэатра «Сатрап» Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта (мастацкі кіраўнік — Надзея Жук) і маладой паэтэсы, сябра СПБ Ганны Мартынчык. Свае вершы чыталі і галоўны герой імпрэзы. Цёпла сустрэлі прысутныя Сяргея ды Іну Кравец, якія напоўнілі вечарыну арыгінальным музычным каларытам.


Фота Кастуся Дробава.

*Таццяна Сівец.*

Прэзентацыя кнігі беларускай пісьменніцы, сябра СПБ Таццяны Сівец «Разняволенасць» у Доме Ваньковічаў парадавала прыхільнікаў творцы. Вёў вечарыну галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі замежнага вяшчання Беларускага радыё, пісьменнік Навум Гальпяровіч.

У імпрэзе ўзялі ўдзел маладыя паэты Маргарыта Латышкевіч, Яна Явіч, Лола Рамановіч, Антон Рудак. Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава зазначыла: шмат якія вершы Таццяны Сівец блізкія і асабіста ёй. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Алена Мальчэўская прадставіла гасцям вечара надрукаваную на старонках часопіса паэму Таццяны Сівец «Баку». На працягу ўсёй імпрэзы госці вечара чыталі вершы аўтаркі «Разняволенасці». Некаторыя яе творы гучалі ў аўтарскім выкананні.

Кожны ўдзельнік вечарыны атрымаў у падарунак папяровы самалёцік з паэтычным пажаданнем ад аўтаркі кнігі. Верыцца, што Таццяна Сівец зноў і зноў будзе радаваць аматараў паэтычнага слова новымі кнігамі і творамі.

Сябры Мінскага гарадскога аддзялення СПБ завіталі на свята гумару «Беларусы жартуюць» у сталічную публічную бібліятэку № 7, якое правялі пісьменнікі Мікола Шабовіч і Анатоль Зэкаў.

Удзельнікамі свята сталі Сяргей Давідовіч, Васіль Найдзін, Дзмітрый Дземідовіч, Янусь Малец, Уладзімір Туліnaў. А сярод герояў пародый — Раіса Баравікова, Мікола Віч, Віктар Шніп… Пры канцы вечарыны прагучалі песні ў выкананні Дзмітрыя Пятровіча, у тым ліку на верш аднаго з пачынальнікаў сучаснага беларускага гумару — Уладзіміра Ермалаева.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Гётэ, Гогаль і эпізоды

**Вобраз спакушальніка Мефістофеля з неўміручай драматычнай паэмы Гётэ «Фаўст» асацыіруецца найперш з цёмнымі сіламі і чорнай магіяй. Гэты вобраз стаў ключавым для камедыі-гратэска «Мефіста або ідэальны палюбоўнік», пастаўленай рэжысёрам Станіславам Вількіным паводле п'есы беларускага драматурга Анатоля Дзялендзіка.**

У пастаноўцы ўзялі ўдзел артысты Тэатра-студыі кінаакцёра і Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.

Прэм'ера гэтай п'есы (якая ў кніжным варыянце называецца «Гогаль-могаль» («Мефіста»)) у Канцэртнай зале «Мінск» мела безумоўны поспех — дзякуючы не толькі п'есе, але і рэжысёрскаму рашэнню. Прычым жанр твора Анатоль Дзялендзік акрэсліў не проста як камедыю-гратэск, а як «свавольствы ўяўлення ў духу М. В. Гогаля. Толькі для дарослых!». Чаму ў духу Гогаля? Ды таму, што праблематыка твора адсылае чытача да хрэстаматыйнай аповесці класіка «Нос». Аднак у п'есу ўведзены вобраз Мефіста — жывое ўвасабленне голасу сумлення галоўнага героя. Мабыць, якраз тут і дасягае апагея разлад Нічыпара з самім сабою, які ёсць першапрычына яго пакут?..

Дзеянне адбываецца ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Галоўны герой, ужо немалады пісьменнік Нічыпар Гамыза (ці проста Нік), перажывае сапраўдныя «пакуты творчасці»: вось ён садзіцца да пішучай машынкі, але прыпыняецца, надрукаваўшы колькі радкоў. Дастае гэты аркуш, змінае, выкідае ў сметніцу, устаўляе новы… «Не, Мікалай Васільевіч, з'этага я пісаць не стану. Скажуць, не фармат…»

«Гогаль не любіў жанчын. І пісаў прыўкрасна», — дакарае Ніка жонка Маша. Вядома, лавеласу Нічыпару таго не зразумець. «Мяне ацэняць гадоў праз сто!» — сцвярджае ён. Неяк дзіўна: Нік — празаік, па логіцы павінен быць рэалістам, а лунае ў аблоках! Забыцца яму не дазваляюць былыя каханкі, якія адна за адной паўстаюць перад гледачом. Дзеянне ж выбудавана так, што Маша, раз-пораз заходзячы ў пакой, не заўважае гэтых жанчын, адна з якіх, Ліка, вельмі нагадвае булгакаўскую Маргарыту, запрашаючы Ніка разам паляцець да Гогаля! Нічыпар не ў сілах адмовіць. Мінулае і рэчаіснасць… А ці ёсць будучыня?..

**Яна ЯВІЧ**

# «Хто ты ў беларускай міфалогіі?»

## Такі тэст прапануе дзіцячы альманах «Гарбузік»

Пабачыў свет другі выпуск дзіцячага літаратурна-забаўляльнага альманаха «Гарбузік». Пераважная большасць яго публікацый прысвечана цудам свету. Юныя чытачы, а таксама іх мамы і таты, бабулі і дзядулі змогуць здзейсніць захапляльнае віртуальнае падарожжа да Вялікай Кітайскай Сцяны і пірамідЫ Хеопса ў Егіпце, наведаць маўзалей Тадж-Махал у Індыі, рымскі Калізей… Разгарнуўшы цвёрдую ўкладку ў сярэдзіне альманаха, хлопчыкі і дзяўчынкі змогуць уключыцца ў актыўную гульню па пошуку сапраўднага беларускага цуда — знакамітага Крыжа Ефрасінні Полацкай.

Да таго ж альманах, апраўдваючы сваю мэтавую скіраванасць, прапануе чытачам незвычайны тэст «Хто ты ў беларускай міфалогіі?», падказвае, як змайстраваць папяровага жаваронка, распавядае, чаму не тоне іголка, запрашае разгадаць «Загадкавую крыжаванку» і знайсці адказы на «7 хітрых загадак».

Багаты альманах і на літаратурныя творы. На яго старонках змешчаны казкі Алены Масла «Мяне завуць Лахнэска» ды ірландскага пісьменніка Тона Тэлегена «Штосьці ад сонца», вершы Пятра Васючэнкі, Анатоля Зэкава, Сержука Сокалава-Воюша і Андрэя Хадановіча. А яшчэ чытачы знойдуць у «Гарбузіку» комікс Вольгі Раманюк «Трыццаць шэсць і сем» паводле вершаў Уладзіміра Сіўчыкава і змогуць развучыць «Застольную песню гномаў» Джона Р. Р. Толкіна, як у англійскім арыгінале, так і ў перакладзе Андрэя Хадановіча на беларускую мову. Словам, як сцвярджаюць рубрыкі альманаха, — перагортваючы старонку за старонкай, чытаем, думаем, даследуем, прыдумляем, майструем, гуляем!

**Анатоль ЗАРЭЦКІ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**8 красавіка** — *на творчую сустрэчу з празаікам, старшынёй секцыі прозы Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталляй Касцючэнка, якая пройдзе ў актавай зале СШ № 23 (вул. Панчанкі, 56). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**11 красавіка** — *у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4) на творчую сустрэчу з пісьменнікам, сакратаром СПБ Георгіем Марчуком. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**12 красавіка** — *у літаратурны клуб «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Янай Явіч. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**13 красавіка** — *на свята дзіцячай кнігі ў СШ № 72 (вул. Халмагорская, 59) з удзелам пісьменніка, старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова. Пачатак у 11.30.*

**14 красавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**14 красавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на паэтычны спектакль «Начная перапіска» паводле вершаў паэтэсы Анастасіі Кузьмічовай. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**17 красавіка** — *на літаратурна-музычнае свята ў Цэнтры нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19) з удзелам паэтэс Аліны Легастаевай і Вольгі Сакаловай. Пачатак у 14.30.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**9 красавіка** — *на беларуска-літоўскую канферэнцыю ў Вілейскім райвыканкаме (г. Вілейка, вул. Партызанская, 40) да 160-годдзя навуковай экспедыцыі па Віліі гісторыка і грамадскага дзеяча графа Канстанціна Тышкевіча з удзелам паэта, аўтара-выканаўца Уладзіміра Цануніна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**12 красавіка** — *на круглы стол «Слова, якое яднае народы» ў рамках беларуска-румынскага літаратурнага супрацоўніцтва ў дзіцячай бібліятэцы № 10 (Мінск, пр. Незалежнасці, 123).*

**13 красавіка** — *на сустрэчу вучняў 5 — 7 класаў з паэтэсай Ірынай Карнаухавай у Мачулішчанскім цэнтры культуры і вольнага часу Мінскага раёна (г. п. Мачулішчы, вул. Герояў, 1). Пачатак у 15.00.*

**15 красавіка** — *на прэзентацыю дзіцячага літаратурнага клуба «Ізяслаўцы» з удзелам намесніка старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Ірыны Карнаухавай у Заслаўскай гарадской бібліятэцы (г. Заслаўе, вул. Студэнцкая, 4). Пачатак у 16.00.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**11 красавіка** — *на прэзентацыю кніг серыі «Рассказы Деда Природоведа» Галіны і Сяргея Трафімавых у СШ № 12 г. Оршы (вул. Заслонава, 10). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**12 красавіка** — *на літаратурную сустрэчу з полацкімі паэтамі ў гарадской бібліятэцы-філіяле № 8 г. Полацка «Абуджэнне прыроды абудже і нас…» (вул. Шаныгіна, 54). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**14 красавіка** — *на прэзентацыю кніг Таццяны Чэкед «100 загадок для ребят» і «Петушок клевал снежок» у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**16 красавіка** — *на гадзіну з пісьменніцай Наталляй Шастаковай «Мудрасць жывой прыроды» ў межах праекта «Гомельскі пісьменніцкі дэсант», прымеркаваную да Дня экалагічных ведаў, у бібліятэку-філіял № 4 г. Гомеля (вул. Багданава, 24). Пачатак у 11.00.*

# Адам ШОСТАК:

# «Публікацыя перакладаў спрыяе культурнаму ўзаемаўзбагачэнню…»

**Адам Шостак — рэдактар аддзела часопіса «Полымя». Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паэт і перакладчык. Актыўна заявіў пра сябе ў апошні час як перакладчык паэзіі народаў постсавецкай прасторы: пераклаў вершы ўкраінскіх, казахскіх, кыргызскіх паэтаў. Падзеяй сталася публікацыя перакладу паэмы казахскага мастака слова Галыма Жайлыбая «Чорная хустка» ў часопісе «Полымя». Урыўкі з твора друкавала таксама і «Літаратура і мастацтва». Пра мастацкі пераклад у «Полымі» і не толькі — наша гутарка з маладым літаратарам.**



**— У «Полымі» даволі часта друкуюцца пераклады з літаратур іншых народаў... Наколькі гэта мэтанакіраваная праца? Вы перакананы ў тым, што публікацыя перакладаў спрыяе развіццю «тоўстага» літаратурна-мастацкага часопіса?**

— Пачну з апошняга пытання. Калі адказаць адным словам, то так, вядома, публікацыя перакладаў спрыяе развіццю часопіса як «тоўстага» літаратурнага перыядычнага выдання. У сярэдзіне 2000-х у Беларусі выходзіў «тоўсты» часопіс перакладной літаратуры — «Всемирная литература» — па-руску.

**— А яшчэ раней — гадавікі «Братэрства», «Далягляды», «Ветразь»… Іх старонкі былі прысвечаны перакладным творам…**

— І шкада, што зараз тыя альманахі ў некаторым забыцці. А, між іншым, гэта на іх старонках заявілі пра сабе як перакладчыкі: з урду — Уладзімір Шчасны, з фінскай — Якуб Лапатка… Там шмат друкаваўся як перакладчык Рыгор Барадулін. Ды і старэйшага пакалення паэты выступалі там як перакладчыкі: Мікола Аўрамчык, Алесь Звонак ды іншыя…

Мне падаецца, публікацыі перакладаў у беларускамоўным часопісе «Полымя» — надзвычай істотная, важкая з'ява на дадзены момант. І, як на мой погляд, натуральная з'ява… Вядома, гэта мэтанакіраваная праца. Амаль у кожным нумары «Полымя» чытач можа знайсці пераклады ў рубрыцы «Галасы свету». Публікацыя перакладной літаратуры спрыяе культурнаму двухбаковаму ўзаемаўзбагачэнню: краіны літаратурнага арыгінала і краіны, на мову якой літаратура перакладаецца.

**— Што з публікацый апошняга часу ў «Полымі» — размова пра пераклады — вы лічыце найбольш яркай падзеяй?**

— Складана вызначыць адну публікацыю, але ж калі спыніцца на адным аўтары і адным перакладчыку, то гэта кітайскі паэт Лі Хэ ў перакладзе Алены Раманоўскай, апублікаваны ў № 11 часопіса «Полымя» за 2015 год, а таксама ў № 12 часопіса «Маладосць» за 2015 год. Хачу падкрэсліць таксама і выхад твораў Лі Хэ ў асобнай кнізе. Гэты паэт жыў у VIII — IX стст. і ўвайшоў у «залатую скарбонку» класікі сусветнай літаратуры.

**— Лі Хэ перакладзены Аленай Раманоўскай з мовы арыгінала…**

— І, несумненна, гэта вельмі істотная акалічнасць…

**— А ці не падаецца вам, што прадстаўленне паэтаў, празаікаў з чужых краін патрабуе і пэўнага расповеду пра іншанацыянальныя літаратуры?**

— Гэта добрая ідэя для далейшага развіцця часопіса «Полымя». Перакладаючы казахскага паэта Галыма Жайлыбая, я сутыкнуўся з тым, што для стварэння мастацкага перакладу трэба вывучаць кантэкст культурны і гістарычны краіны, з мовы якой пераклад робіцца. Дарэчы, пераклады Лі Хэ, выкананыя Алены Раманоўскай, як вы ўжо заўважылі, зробленыя з мовы арыгінала, змяшчаюць шмат спасылак. Аб'ём спасылак можа быць роўным уласна тэксту ў некаторых выпадках, бо інакш тэкст застанецца незразумелым. Асабліва гэта тычыць літаратуры далёкіх ад нас культур.

Так, падкрэслім, што публікацыі вершаў Лі Хэ, перакладзеных Аленай Раманоўскай альбо з яе дапамогай іншымі перакладчыкамі, у тым ліку і знаным паэтам Леанідам Дранько-Майсюком, пасля сталіся асобнай кнігай «Песня бамбуковай флейты»...

І тым самым прадоўжылася серыя кніг «Светлыя знакі: Паэты Кітая» ў Выдавецкім доме «Звязда»... Думаю, што гэта свайго роду рубеж, мяжа, за якой пачынаецца новая дарога да перакладчыцкага сталення ў беларуска-кітайскіх літаратурных адносінах.

**— Што ў «Полымі» ў планах публікацый, калі гаварыць пра пераклады з іншых літаратур?**

— Я найбліжэйшым часам планую перакласці творы рускіх паэтаў Андрэя Пермякова і Яніса Грантса. Таксама плануем публікаваць Мікаіла Мушвіга, выдатнага азербайджанскага паэта, у перакладзе паэтэсы і перакладчыцы Марыі Кобец. Ведаю, што ў выпадку з азербайджанскім паэтам таксама была дапамога па падрыхтоўцы падрадкоўнікаў азербайджанскім бокам.

У Мінску, у педагагічным універсітэце, працуе цэнтр культуры Азербайджана... Чым не пляцоўка для развіцця беларуска-азербайджанскіх літаратурных стасункаў?

Ведаеце, тут многае залежыць ад універсітэцкіх выкладчыкаў, ад таго, наколькі цікава ўніверсітэцкай навуцы разгортваць такія асяродкі, ствараць прастору вакол зносін з іншымі літаратурамі. І ў выпадку з азербайджанскай — таксама. Гэтым пачынаннем можа спрыяць і тое, што ў нас шмат зараз вучыцца замежных студэнтаў. Напрыклад, толькі туркменаў у краіне ў розных ВНУ недзе каля 10 тысяч!.. Дык няўжо сярод іх няма цікаўных да літаратуры, літаратуразнаўства?!.

**— Застаецца, паважаны спадар Адам, пажадаць вам і часопісу «Полымя» поспехаў у знаёмстве з паэзіяй, прозай іншых народаў на беларускай мове.**

— Дзякуй! Публікацыяй перакладаў, працягам традыцыі прадстаўляць мастацкае слова іншых краін на мове Купалы і Коласа мы развіваем і нашу родную літаратуру.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# Хізры АСАДУЛАЕЎ



*Паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Хізры Асадулаеў 1 красавіка адсвяткаваў 60-годдзе. Яго творчасць — нібы чыстая крыніца філасофіі, мудрасці, духоўнасці. Рэдакцыя «ЛіМа» віншуе юбіляра і прапануе ўвазе чытачоў нізку вершаў.*

## Памяці Расула Гамзатава

*Ці ты лятаць збіраўся, ці спяваць,*
*Спазніцца слабасць меў — ну што сказаць?!*

*Спаткаўся з прыгажуняй незямной,*
*Але заўжды спазняўся і да той.*

*Дамашнія прывыклі, пілігрым,*
*Што для цябе спазненні — як рэжым.*

*Ты ў Індыі быў на сваім вяку —*
*Пацісніў бы Тагораву руку…*

*Ды і ў Арменіі ты пабываў.*
*Спазніўся да Сар'яна… Процьма спраў…*

*А жартаваў не раз: само сабой,*
*Спазніўся да гаранкі маладой.*

*Спазняўся ты паўсюль, дзе плач, дзе смех,*
*Спазняўся, ды жаданым быць не грэх!*

*Але навошта здрадзіў ты сабе?*
*Ключы ад Брамы… Неба — у журбе…*

*Ад гора Дагестан рыдаў тады:*
*«Спазніўся б лепш на неба праз гады!..»*

***

*Нямала я і праспяваў, і праслухаў,*
*Мне блізкія песні па сэрцы і духу.*

*Раздольная, звонкая, плача-ліецца —*
*Вядома, што рускаю песняй завецца.*

*І стому, і смутак заўжды праганяла —*
*Тады беларуская песня гучала.*

*Смяяўся, забыўшыся нат, што не юны,*
*Пад песню ўкраінскую — вольныя струны.*

*Здавалася мне, што найлепшыя словы —*
*Ў азартна-залівістай песні Малдовы.*

*Імгненне — і як не было той разлукі:*
*Забыцца прымусяць грузінскія гукі.*

*Як быццам жыццё бег наноў пачынала,*
*Калі тут армянская песня гучала.*

*Глядзіш, загаіцца сардэчная рана*
*Пад песню прыўкраснага Азербайджана.*

*І мудрасць заранкай прыходзіла весняй,*
*Як свет азараўся арабскаю песняй.*

*І быццам не страшныя горныя спускі*
*За песняй іспанскай, за песняй французскай…*

*Жыццё ж маё толькі з тае выцякала,*
*Што ў горскім дзяцінстве пад пандур гучала.*

***

*І адкуль жа, адкуль, адкажы мне, такая патрэба —*
*Растрывожыць вякі, цішыню салаўёў распужаць?..*
*Зноў ты птушцы анёльскай падкінуў скарыначку хлеба,*
*А цяпер твая справа — падступна яе заклікаць?!*

*Ці яна для таго да цябе спакваля прывыкала,*
*Што і сэрцам адтала, славесных не чуючы джал,*
*Каб рука твая злосная ў птушку каменне шпурляла*
*І каб словам ілжывы язык твой яе дабіваў?!*

*Абылжэш яе, зраніш… А здарыцца можа такое,*
*Што ў будзённасці шэрай, нібыта пад ценем крыла,*
*Ты не ўцяміш, чаму не дае табе птушка спакою,*
*Як так выдзеўбла вочы і як за сабой павяла…*

***

*Не ведае нечысць, што ёй цяпер нечысцю звацца,*
*І блазан не ведае: блазнам яму заставацца.*
*Вярсце невядома, што клічуць ад веку вярстою…*
*Дык дзе ж чысціні тут паспець за такой чысцінёю?!*

*А трэба, каб ведала нечысць, што быць ёй нячыстай,*
*І каб чысціні перашкод не чыніла святлістай.*
*Каб душы святлелі, на дахах святло палымнела*
*І каб за душою душа да вышыняў ляцела…*

**З карацінскай.**
**Пераклала Яна ЯВІЧ**

# ВЫСТАЎКІ КРАСАВІКА: ЧАГО ВЫ ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЛІ?

**Другі месяц вясны выдаўся вельмі багатым на вернісажы, прычым, на любы густ. У мінулым нумары мы асобна расказвалі пра гучны праект Руслана Вашкевіча «Канал Культура» ў мастацкай галерэі «Дом карцін», выстаўку Валерыя Песіна «Ціхае жыццё» (заўтра яе можна пабачыць апошні раз). Падыходзіць да завяршэння экспазіцыя Уладзіміра Сулкоўскага «Формула нацыянальнага каларыту» ў «Галерэі Мастацтва». Але ёсць яшчэ шэраг выставак, на якія варта звярнуць увагу.**

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ

1 Мастачка Ала Каласенцава, адкрываючы сваю юбілейную выстаўку «Колер. Рэальнасць. Фантазія», запрасіла гледачоў прагуляцца па прасторах яе душы, бо ўсе работы — карпатлівы, працаёмкі працэс, які на працягу многіх год мастачка быццам бы ткала як адно вялікае, насычанае жыццёвымі сюжэтамі палатно.

Жывапіс Алы Каласенцавай уяўляе сабой прысвячэнне жанчыне. Прыгожыя партрэты аголеных дзяўчын не бянтэжаць, а абуджаюць эстэтычнае і гарманічнае ўражанне. Партрэты мастачка піша падрабязна, не адцягваючы ўвагу на староннія дэталі. Яна падкрэслівае маладосць гераінь, акуратна вымалёўвае рысы, захоўваючы чароўнасць вобраза. За кошт наяўнасці жаноцкай прыроды работы аўтаркі не губляюць лёгкасці і нават інтрыгі.



*«Муза», 2004 г.*

Акрамя партрэтаў, Ала Каласенцава займаецца пейзажным жывапісам. Яна натхняецца беларускімі краявідамі, адлюстроўвае іх спакой і цішыню. Мастачка любіць кветкі, якія ў выніку рэалістычна пераносіць на палатно: яны стаяць у вазах, растуць у невялікіх мястэчках і акружаюць жанчын. Асноўны прынцып творчасці аўтаркі — стварэнне ідэальнага візуальнага свету для прадстаўніц слабага полу і захаванне вечнага імгнення шчасця і душэўнай цеплыні. Ала Каласенцава не прытрымліваецца аднаго мастацкага стылю, а эксперыментуе, чым і прываблівае публіку.

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ

2 Яшчэ адна юбілейная экспазіцыя — на гэтай жа выставачнай пляцоўцы. Светлагорскі мастак Мікалай Кухарэнка прадстаўляе шэраг жывапісных работ, насычаных падтэкстам беларускай культуры. Творчасць аўтара адкрытая, не пазбаўленая ідэалістычнасці і абстрактнасці. Юбіляра хвалююць працэсы асяроддзя, адносіны да роднай зямлі, якія ён прапануе гледачам разгледзець у эпіцэнтры сюжэтаў яго палотнаў.

Шмат работ аўтара прадстаўлены ў жанрах партрэта і нацюрморта. Партрэт увогуле самы блізкі жанр мастаку. Ён жадае не проста адлюстраваць твар, а праз канкрэтныя, ярка выяўленыя рысы паказаць характар, унутраны свет героя, адкрыць яго гледачу, магчыма, з нечаканага боку. Глядзіш на партрэт і, здаецца, на «каменных» тварах заўважаеш сапраўдныя эмоцыі. Парадокс, аксюмаран? Наўрад ці, хутчэй мастацкі метад стварэння жывога твора.



Нацюрморты і пейзажы майстра прасякнуты духам вясны. Свежае паветра, якое сыходзіць ад іх, зачароўвае своечасовасцю і пранікнёнай задуменнасцю. Мастак не імкнецца да адлюстравання чагосьці нязвыклага — ён атрымлівае асалоду ад звычайных дробязяў.

## АРТ-ГАСЦЁЎНЯ «ВЫСОКАЕ МЕСТА»

3 Сучасная беларуская кераміка і тэкстыль былі прадстаўлены на адкрыцці тэматычнага праекта «*KOLO-ART*». У рэалізацыі праекта ўдзельнічаюць сем цікавых мастачак: Ала Непачаловіч, Алена Обадава, Алена Сяргеева, Наталля Сухаверхава, Тамара Васюк, Наталля Еўгелеўская і Яўгенія Мусінская. Кожная з іх мае асобны дар — ствараць індывідуальнае, карыснае і эстэтычна-прыгожае. Яны працуюць у розных стылях, але іх аб'ядноўвае ўпэўнены курс на традыцыйныя прыёмы і тэхнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.



Аўтаркі не баяцца эксперыментаваць, шукаць новыя плыні ў творчасці, кожная з іх спрабуе выпрацаваць асабістыя стылістычныя рысы. Для стварэння прадстаўленых экспанатаў мастачкі выкарыстоўвалі шэраг матэрыялаў: воўну, лён, сізаль, баваўну, сінтэтыку, гліну, шкло і глазуру. Таму ў шматграннасці і эксклюзіўнасці выстаўкі сумнявацца нельга.

Асноўным сімвалам экспазіцыі з'яўляецца калектыўны арт-аб'ект «Кола», які сімвалізуе колазварот дзейнасці ўсіх мастакоў, іх вопыт, які перадаецца з пакалення ў пакаленне. Інтэр'ер арт-гасцёўні дазваляе гледачам з розных бакоў ацаніць экспанаты, заўважыць разнастайнасць форм у кераміцы і арыгінальнасць каляровага афармлення тэкстылю.

## КІНАТЭАТР «ПЕРАМОГА»

4 Хочаце пабываць на бязмежных прасторах пустыняў штатаў Юта і Арызона, там, дзе Зямля нагадвае іншую планету, там, дзе нараджаецца адчуванне, што ў цябе выраслі крылы? «Аднойчы ў Амерыцы» — так называецца фотавыстаўка Людмілы Сідзянко. Нічога агульнага з гангстарамі Серджа Леонэ. Ніякай мітусні Лос-Анджэлеса ці Манхэтана. Гэта майстэрства ціхіх, маўклівых, магнетычных пейзажаў. Чаму іх трэба ўбачыць? Людміла Сідзянко мяняе звыклыя абрысы свету, робіць іх прывабнымі, непазнавальнымі — і вучыць гэтаму іншых. Для яе фотаапарат — як пэндзаль мастака. За два тыдні аўтар праехала 8 з паловай тысяч кіламетраў. На яе здымках ажываюць мудрагелістыя, фантастычныя фігуры, створаныя прыродай з дапамогай толькі ветру, руху тэмператур і вады. Да гэтага Людміла Сідзянко прадстаўляла выстаўкі, звязаныя з прыродай роднай Беларусі, — такія ж магічна нечаканыя.



## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

5 Паэзія савецкай эпохі, часу, які пайшоў, але пакінуў значны след у сучаснасці, — на выстаўцы «Героіка і лірыка мінулага стагоддзя». Атмасфера, якую мы не адчуем зараз на вуліцах, хіба што ўбачым у архітэктуры або асобных крамах, увасобілася ў жывапісе. Некаторыя з 40 прадстаўленых карцін у апошні раз выстаўляліся шмат гадоў таму, яшчэ да набыцця Беларуссю незалежнасці.

Выстаўка руйнуе стэрэатыпы, хоць і вельмі традыцыйная, створаная для аматараў класікі, стрыманых тонаў і рэалізму. Якім чынам? Мы бачым, напрыклад, што сацрэалізм — гэта не толькі дыктат ідэалогіі, а жывапісная стыхія, падобнае імпрэсіянізму разуменне форм і кветак.



*Абрахам Рабкін. «9 мая. Беларуская сям'я» 1967.*

Цікава і тое, што на адной прасторы сабраны работы майстроў як перыяду ранняга СССР, так і часоў рэпрэсій, вайны, а таксама аднаўлення і раскаванасці — 1970-х. Мастакі працягвалі тварыць, нягледзячы ні на што. Тут і характэрны Ісак Бродскі, вучань Ільі Рэпіна, са сваёй ленініянай, і аматар каляровых метафар Рыгор Ніскі, і рамантычны пейзажыст Віталь Рогаль з абвострана пачуццёвым успрыманнем прыроды.

Псіхалагічныя партрэты («Мацярынства» Сяргея Тутунова) суседнічаюць з вывай рабочых на металургічным заводзе, сялян, якія косяць сена, будаўніц Масквы ці рыбачак на беразе Каспія. Усе роўныя ў працы — і партрэт Стаханава завяршае ідылію. Гэта наша гісторыя. Дык дзе ж разбурэнне стэрэатыпаў? Карціны выкананы ў цалкам розных стылях. Відаць, што кожны мастак змог выказаць сябе праз прызму... хай нават дзяржзаказу. Сказана больш, чым здаецца на першы погляд. Прайдзіце тэст на ўважлівасць!

**Вікторыя АСКЕРА, Марыя ВОЙЦІК**

# Гастрольны спосаб размовы

**Багатым на новыя тэатральныя ўражанні аказаўся першы месяц вясны для тых, хто наведваў спектаклі прыезджых калектываў, якія ладзіліся на сцэне Беларускага акадэмічнага музычнага тэатра. Тут ужо даўно склалася практыка абмену сцэнічнымі пляцоўкамі з многімі тэатрамі Расіі і Прыбалтыкі. А ў сакавіку да гэтай кагорты далучыўся Дзяржаўны акадэмічны рускі драматычны тэатр Рэспублікі Башкартастан (Уфа), абменныя гастролі з якім адбыліся ўпершыню.**

Апошнія тры дзесяцігоддзі гэты тэатр узначальвае заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі і Башкартастана Міхаіл Рабіновіч, які, захоўваючы напрацаваныя тэатральныя традыцыі, адважваецца і на самыя смелыя эксперыменты. У гастрольнай афішы было прадстаўлена 6 разнажанравых спектакляў, у тым ліку і дзіцячы.

Рускі тэатр немагчыма ўявіць без рускай класічнай драматургіі. І госці з Уфы прывезлі камедыю Аляксандра Астроўскага **«Шалёныя грошы»** ў пастаноўцы Міхаіла Рабіновіча. Твор хрэстаматыйны. Але неабходна адзначыць, што да гэтага часу ён не страціў ні лёгкасці, ні гумару, ні самага галоўнага — тонкага псіхалагізму.

Пастаноўшчыкі адышлі ад камернай формы п'есы і зрабілі спектакль шматнаселеным і яркім. Напрыклад, адразу пасля адкрыцця заслоны ўражвае маляўнічы заднік з выявай перспектывы маскоўскай вуліцы з яе крамамі, рэстаранамі, банкамі, што стварае адчуванне рэальнасці падзей (мастак-пастаноўшчык Вячаслаў Віданаў). Гэтаму спрыяюць і ўдзельнікі масавых сцэн, якія як бы ажыўляюць карціну. І нават калі на сцэне застаюцца два-тры персанажы, усё роўна не знікае ўражанне, што яны знаходзяцца на шматлюднай вуліцы. Ёсць нават своеасаблівы кардэбалет, які выконвае прыкладную функцыю: адцягвае на сябе ўвагу гледачоў пры змене дэкарацый.

У спектаклі толькі два жаночыя вобразы: Надзея Антонаўна Чабаксарава (Таццяна Макрушына) і яе дачка Лідзія (Кацярына Калмагорава). Прывычаіўшыся жыць у раскошы, яны раптоўна сутыкнуліся з банкруцтвам, і цяпер усе намаганні абедзвюх накіраваны на пошукі для Лідзіі багатага жаніха. Надзея Антонаўна — знешне сапраўдная маскоўская барыня, якая выйшла з дваранскага асяроддзя, але ўнутрана хцівая і хітрая, гатовая дзеля грошай адмовіцца ад маральных прынцыпаў. Такая ж і яе дачка. Нават дзіву даешся, адкуль у маладой асобы такое веданне жыцця і столькі халоднага разліку. Праўда, артыстка свой вобраз прыкметна асучасніла: і ў пластыцы, і ў рухах, і ў падачы рэплік, і ў самой манеры сцэнічнага існавання.

Уражвае і бліскучая троіца паклоннікаў Лідзіі. Цяляцеў (Рустэм Гайсін) — абаяльны жартаўнік, без граша ў кішэні малады дваранін, які прызвычаіўся жыць за чужы кошт і нават пальцам не паварушыць, каб паправіць сваё становішча. Выканаўцу гэтай ролі таксама вызначае сучасны спосаб сцэнічнага існавання, але гэта не супярэчыць унутранай сутнасці персанажа. Важны пажылы барын Кучумаў (Алег Шумілаў) мае княжаскія замашкі, носіць шыкоўшы, але пусты бумажнік, бо ўсе даходы сям'і знаходзяцца ў руках жонкі. Артыст вельмі арганічны ў гэтай ролі: ніводнага штрыха нельга змяніць у абмалёўцы яго вобраза. І нарэшце Глумаў (Цімур Гарыпаў) — цынік і інтрыган, умее атрымаць выгаду. Усіх гэтых дваранскіх нашчадкаў Астроўскі падае як прыжывальшчыкаў буржуазіі ў парэформеннай Расіі. А яе яркім прадстаўніком з'яўляецца Васількоў (Сяргей Міхееў), які і бярэ шлюб з Лідзіяй Чабаксаравай. У адрозненне ад папярэдніх, гэты вобраз не адназначны.



Фота Булата Гайнетдзінава.

*Сцэна са спектакля «Бацькі і дзеці».*

Яго ўзаемаадносіны з жонкай вельмі хутка набылі выгляд дзелавой здзелкі: выказваючыся сучаснай мовай, яны заключылі шлюбны кантракт.

Спектакль **«Бацькі і дзеці»** запатрабаваў ад гледачоў гатоўнасці прыняць зусім не класічнае рашэнне хрэстаматыйнага твора. Яго пастановачная група — з Санкт-Пецярбурга. Рэжысёр Пётр Шарашэўскі сам зрабіў інсцэніроўку тургенеўскага рамана і абазначыў жанр пастаноўкі як сучасную тэатральную фантазію. Сапраўды, фантазіі тут хапае: шмат алюзій з філасофіяй постмадэрнізму, асацыяцыі з Малевічам, з яго «Чорным квадратам». Усе тэатральна-мастацкія сродкі выразнасці сучасныя, героі таксама апрануты па-сучаснаму. Зусім нечаканае музычнае афармленне спектакля: кампазіцыі сучаснай нямецкай метал-групы «*Rammstein*», «Адажыа» Альбіноні, вальсы Штрауса, савецкія масавыя песні... Сцэнаграфія (мастак-пастаноўшчык Анвар Гумараў) таксама пазачасавая: антычныя галовы, рускія самавары, капна саломы...

Але пры гэтым усе дыялогі ў спектаклі аўтэнтычныя, тургенеўскія. І сюжэт тургенеўскі. Толькі дзеянне пачынаецца не з прыезду Аркадзія з Базаравым у маёнтак Кірсанава, а са сцэны ў бацькоўскім доме Базарава, калі ён ужо разумее, што памрэ, — эпілог, які становіцца пралогам. З пачатку спектакля не пакідае ўражанне, што форма пераважае над зместам, потым яны як быццам ураўнаважваюцца, а бліжэй да канца ўжо адназначна перамагае змест. Такая смелая інтэрпрэтацыя рамана шматслойная і ў той жа час цэльная, дзеянне не разрываецца на не звязаныя паміж сабой кавалкі. І чорны квадрат аказваецца функцыянальным. У яго перыметр упісваецца пакой у доме Базаравых, дзе ідуць размовы пра трагічны выпадак. Пры гэтым прымяняецца відэапрыём, калі глядач можа назіраць ігру акцёраў адначасова на агульным і на буйным плане.

У ролі Базарава выступіў малады артыст Руслан Бельскі. Чыста знешне нігіліст XIX стагоддзя нагадвае сучасных радыкалаў: брытая галава, скураная куртка і берцы. Але ўнутрана ён такі ж, якім апісваў Тургенеў. Аркадзій Кірсанаў у выкананні Арцёма Агліуліна, гаворачы сённяшняй мовай, — тыповы «мажор». Бацька Аркадзія Мікалай Пятровіч Кірсанаў (Уладзімір Латыпаў-Дагадаў) у асобе Базарава адчувае новую маладую сілу і баіцца яе. Тое ж адчувае і Павел Пятровіч Кірсанаў (Аляксандр Федзяраеў), які ў вясковай глухамані стараецца захаваць франтаўство і самаўпэўненасць. Бацькі Базарава Васілій Іванавіч (Алег Шумілаў) і Арына Уласьеўна (Святлана Акімава) прыцягальныя ў сваёй натуральнай патрыярхальнасці і хрысціянскай пакорлівасці. Фенечка ў выкананні Вольгі Лук'янавай вельмі натуральная шчырасцю і непасрэднасцю. Ёсць у спектаклі і своеасаблівыя службовыя ролі: магільшчыкі, «чырвоныя сабакі»-слугі, якія падтрымліваюць скразное дзеянне.

Спектакль **«Фабрычная дзяўчына»** — настальгічныя ўспаміны з маладосці тых, каму сёння за восемдзесят. Драматург Аляксандр Валодзін, які, між іншым, нарадзіўся ў Мінску, напісаў аднайменную п'есу ў 1955 годзе (яго літаратурны дэбют). І пачынаючага літаратара адразу абвінавацілі ў ачарніцтве савецкай рэчаіснасці, хоць нічога крамольнага ў гэтым лірычным творы не было. Асноўная тэма п'есы — права на асабістае жыццё. Яе галоўнай гераіняй лічыцца Жэнька, якая не ставіць перад сабой мэту супрацьстаяць сістэме, у чым яе абвінавачваюць, ёй проста хочацца быць сабой. Паказваюцца лёсы кожнай з насельніц інтэрнацкага пакоя і адначасова даецца іх калектыўны партрэт, які сёння мы ўжо ўспрымаем як партрэт той эпохі. Праз лёсы канкрэтных гераінь можна даведацца пра тое, якімі настроямі і марамі жыла моладзь мінулых гадоў і што стрымлівала іх парывы.

Паставіў спектакль маскоўскі рэжысёр Грыгорый Ліфанаў. У ім няма ніякага наватарства і эксперыментатарства, пераасэнсавання першакрыніцы ці нейкага падтэксту. Ёсць традыцыйны рускі тэатр, і яскрава адчуваецца руская тэатральная школа. Музычнае афармленне спектакля выклікае настальгічныя ўспаміны па масавай песні тых гадоў, касцюмы персанажаў і рэквізіт вяртаюць няхай у недалёкую, але ўсё ж гісторыю. Тое ж можна сказаць і пра сцэнаграфію спектакля, прадуманую і функцыянальную, дэталі якой лёгка трансфармуюцца. У пастаноўцы заняты ў асноўным маладыя артысткі тэатра, але ёсць і ўзроставыя ролі.

У гастрольнай афішы асобна вылучаецца спектакль **«Неапаль — горад мільянераў»**, пастаўлены па аднайменнай п'есе італьянскага драматурга, акцёра і рэжысёра Эдуарда дэ Філіпа, галоўную ролю ў якой ён пісаў на сябе. Створана п'еса ў 1945 годзе, а падзеі, што ў ёй адлюстраваны, адбываліся ў 1942 годзе. Неапаль у час Другой сусветнай вайны. Кожны дзень бамбёжкі. Недахоп прадуктаў харчавання, росквіт спекуляцыі і бандытызму. У сям'і Джэнара Ёвінэ (Уладзімір Латыпаў-Дагадаў) пытанні жыццезабеспячэння ўсклала на сябе яго жонка Амалія (Ірына Агашкова). Прама ў кватэры адкрыла падпольную кавярню, а яшчэ займаецца спекуляцыяй прадуктаў, скаапераваўшыся з Эрыка-Прыгажуном (Цімур Гарыпаў), які да яе не раўнадушны. Паступова павялічваюцца і абароты, і даходы. Але з набыццём мільёнаў пачынаюць страчвацца сямейныя ўстоі і простая чалавечая спагадлівасць.

Джэнара, галава сям'і, раптоўна знік (як аказалася пазней, трапіў у канцлагер), сын пачаў займацца ўгонам машын, а дачка зацяжарыла ад амерыканскага салдата. Затое Амалія да гэтага часу ўжо мільянерша. І калі Джэнара вярнуўся з палону, то не пазнаў ні жонку, ні ўласны дом. І нікога не цікавілі яго расповеды пра перажытае… У гэтай п'есе няма ніякай звышідэі, а дэкларуюцца прапісныя ісціны: у пагоні за багаццем чалавек пачынае гінуць як асоба. «Ноч павінна прайсці» — гэтыя словы доктара ў дачыненні да іх небяспечна хворай малодшай дачкі сталі дэвізам-надзеяй на выратаванне не толькі фізічнага здароўя дзяўчынкі, але і маральнага здароўя сям'і.

Паставіў спектакль італьянскі рэжысёр Паола Эмілія Ландзі ў садружнасці з мастаком-пастаноўшчыкам Санці Міньека. Па жанры гэта трагікамедыя, дзе ёсць месца і камічнаму (напрыклад, калі вырашаецца пытанне пра захаванне кантрабандных прадуктаў, то можна і нябожчыкам прыкінуцца). Па прынцыпе пастаноўкі адчуваецца, што гэта іншая тэатральная школа, іншы спосаб існавання акцёраў на сцэне, наогул іншы дух спектакля.

І, нарэшце, камедыя **«Усё кубарам»** іспанскага драматурга Альвара Портэса. Дэтэктыўная гісторыя пра тое, як пісьменніца вышуквае ў рэальным жыцці сюжэты для сваіх раманаў, бо яе літаратурныя фантазіі аказваюцца нецікавымі. А для гэтага, узброіўшыся біноклем, яна сочыць за вокнамі суседзяў. І ўсё, што бачыць, з'яўляецца вынікам яе фантазіі, бо ў запале яна блытае ўсіх, хто прыходзіць у дом і хто з яго выходзіць. У выніку спакойнае жыццё сямейнай пары ператвараецца ў чаргу бясконцых непаразуменняў і падазрэнняў — муж з жонкай ужо апынуліся на мяжы разводу. У галоўных ролях заняты Грыгорый Мікалаеў і Айгуль Шакірава.

Гэтую тыповую камедыю становішчаў паставіў рэжысёр Міхаіл Рабіновіч. У такіх спектаклях звычайна не бывае ні масавых сцэн, ні складанай сцэнаграфіі — усё трымаецца на ўдалай пастаноўцы і ігры акцёраў. І вельмі многае залежыць ад тэмпарытму спектакля.

**Зоя МАТУСЕВІЧ**

# Каштоўнасці «кароткага метра»,

## альбо Што яднае фестываль *Cinema Perpetuum Mobile* з «Оскарам»?

**Напэўна, шмат хто з нас ведае са школьнага курса фізікі, што такое вечны рухавік. Калі не, то хаця б усе ведаюць, што яго не існуе. Бо гэта немагчыма. Неверагодна, калі вечны рухавік звязаны з фізікай, але ёсць і іншы — рухавік кіно. *Cinema Perpetuum Mobile* (той самы вечны рухавік кіно) — фестываль кароткаметражак, які і сапраўды падобны да рухавіка, — тым, што развіваецца бесперапынна і хутка, а да вечнага — тым, што, здавалася б, у Беларусі такі фестываль мог наўпрост не прыжыцца, бо кароткаметражкі, як часта кажуць самі рэжысёры кароткага метра, «не фармат». Але сёлета *Cinema Perpetuum Mobile* адзначае маленькі юбілей: з 8 па 17 красавіка ў Мінску пройдзе 5-ы фестываль. І гэта значыць, што кароткаметражнае кіно беларускаму гледачу патрэбнае, да таго ж яно вартае ўвагі не менш за вялікія мастацкія стужкі, да якіх мы прызвычаіліся.**

### СТВАРЫЦЬ «ВЕЧНЫ РУХАВІК»

Нават першы фестываль адразу атрымаўся даволі маштабным: у ім удзельнічалі 190 стужак з амаль 40 краін свету. Такую папулярнасць можна патлумачыць тым, што арганізатары *CPM* стварылі вакол яго атмасферу ўзаемадапамогі і сяброўства, таму людзі былі згодныя ахвяраваць сваім часам дзеля фестывалю нават у іншых краінах. Галоўнае — захоўваць імпэт, лічыць адзін з каардынатараў *Cinema Perpetuum Mobile* Дзяніс Шэка:

— На першым фестывалі ў нас была рамантычная і крыху наіўная мара паказваць стужкі ў кінатэатры «Перамога», якая ў гэтым годзе спраўдзілася. Мы яшчэ тады хацелі стаць больш прафесійным фэстам, ствараць інфраструктуру, каб нашую справу можна было працягнуць. Першы фестываль атрымаўся сапраўды складаным, трэба было тлумачыць, чаму ты хочаш рабіць нешта ў Беларусі. Усе прывыклі, што не так шмат адбываецца, а мы хочам даказаць, што ў нас ёсць чым прывабіць людзей і што для гэтага неабавязкова патрэбна шмат грошай, — дапамагаюць, хутчэй, чалавечыя адносіны.

У фестывалю цікавая арганізацыя, не зусім звычайная для Беларусі. Заснавальнікі *CPM* — аматары добрых фільмаў, што ўнікальна. Яго робяць людзі, якія не маюць кінаадукацыі або прафесійнага прызнання кінасупольнасцю, «працуюць на звычайных працах»:

— З аднаго боку, гэта дазваляе крытыкаваць нас за некаторую несур'ёзнасць. Але з іншага боку, эксперыментаваць з формай, падачай і нават з вызначэннем жанравых рамак нашых праграм, — лічыць каардынатар Максім Сырэц.

Фестываль створаны звычайнымі людзьмі, таму і рашэнні там прымаюцца шляхам кансэнсусаў і перамоў — дэмакратычна, як кажуць самі арганізатары.

*Cinema Perpetuum Mobile* — гэта ініцыятыва ў першую чаргу для ўласнага развіцця людзей, для кінааматараў Мінска, але да таго ж гэта спроба падтрымкі культурнага развіцця краіны: заснавальнікі зразумелі, што добрага кіно ім бракуе, а дзяржава не мае магчымасці падтрымліваць такія прапановы, таму і фестываль арганізавалі сваімі сіламі.

### ЯК ЖЫЦЬ БЕЗ КОСМАСУ?

Сёлета на *Cinema Perpetuum Mobile* былі дасланыя каля 1000 кінастужак. З іх трэба было адабраць самыя вартыя ўвагі і каштоўныя для беларускага гледача фільмы, якія прадстаўлены ў 5 катэгорыях: ігравое, анімацыйнае, дакументальнае (яго можна ўбачыць у кінатэатры «Перамога»), эксперыментальнае (будуць паказваць у «Корпус 8») і беларускае (кінатэатр «Перамога») кіно. Дзяніс Шэка кажа, што адбор фільмаў эксперыментальны:

— Мы атрымліваем стужкі з усяго свету, і, канечне, гэта работы на тэмы, якія хвалююць замежных аўтараў, адсюль і вымалёўваюцца трэнды (сёлета праграма больш разнастайная, чым на мінулым фестывалі). Напрыклад, у анімацыйнай секцыі ў гэтым годзе дзве асабліва папулярныя тэмы — залежнасцей, якія трэба пераадольваць, і шмат космасу, які трэба пакараць.

Дарэчы, ганарыцца *CPM* можа і тым, што сваю стужку «Мы не можам жыць без космасу» рэжысёр Канстанцін Бранзіт даслаў на наш фестываль, як і на «Оскар». Кароткі метр — гэта ўсё ж такі кіно асаблівае, тым больш стужкі незалежныя. Гледача не так проста зацікавіць такімі фільмамі, але *CPM* з гэтай задачай добра спраўляецца. Галоўнае — змяніць культурную, сэнсавую і грамадскую прастору, адзначае каардынатар Максім Сырэц:

— Мы хочам паменшыць адчужанасць паміж людзьмі. У той час як мы хаваемся ў бетонных скрыначках, свет змяняецца. І мы павінны яму адкрыцца, а фестываль дапамагае нам адкрываць адзін аднаго.



*З фільма «Мы не можам жыць без космасу», рэжысёр Канстанцін Бранзіт (Расія).*

Некаторыя ж з арганізатараў фестывалю лічаць, што з кароткаметражным кіно працаваць прасцей: яно па сваёй прыродзе некамерцыйнае, яго аўтары не чакаюць сусветнага прызнання, кажа Дзяніс Шэка:

— Рэжысёры такіх стужак не разлічваюць на тое, што заробяць грошы. І мэта тут іншая: кароткі метр дазваляе ўвасабіць ідэю ў жыццё больш хутка, таму прывабны для аматараў.

### ВУЧЫЦЦА Ў ІНШЫХ

У гэтым годзе ў журы фестывалю шмат вядомых замежных кіназнаўцаў. Лепшую анімацыйную стужку дапаможа выбраць карэйскі фільммэйкер Эрык О, які прымаў удзел у стварэнні аскараносных «Галаваломкі» і «Адважнай сэрцам», выносіць прысуд дакументальнаму кіно будзе канадская кіназнаўца Сэліна Краманд, дырэктар дакументальнага кінафестывалю «*DOXA*» ў Ванкуверы. Ацэньваць эксперыментальнае кіно прыездзе дублінская мастачка Орла Гіліні, вядомая ў Ірландыі сваімі інсталяцыямі. Альфрэда Супія, кіназнаўца і аўтар кніг з Бразіліі, дапаможа ацэньваць лепшы ігравы фільм. Што датычыцца беларускага кіно, яго дапаможа судзіць арт-крытык Таццяна Бембель.

*CPM* — гэта пляцоўка не толькі для прагляду фільмаў, але і для творчых сустрэч, майстар-класаў, мяркуе Максім Сырэц:

— Вучыцца заўсёды ёсць чаму і ў каго. Кінаадукацыя, якую атрымліваюць у беларускіх кінашколах, хоць і якасная, але даволі аднабокая. Таму любы погляд «з іншага боку» асабліва каштоўны.

Попыт на кароткі метр усё ж такі ёсць (асабліва ў моладзі і людзей, якія гатовыя даследаваць сусвет). Каманда фестывалю ездзіла з турамі-ініцыятывамі па гарадах Беларусі: паказвалі фільмы з Еўропы, з Канады. Дзяніс Шэка адзначае, што такія стужкі падабаюцца, бо ў іх можна знайсці адлюстраванне сябе:

— Кароткі метр — даволі моцны інструмент, бо дазваляе дакрануцца да іншай культуры, гэта сутыкненне з паўсядзённасцю іншых краін: з дапамогай кіно можна падарожнічаць. Наш фестываль пра тое, каб знаходзіць агульнае паміж людзьмі, каб яны маглі развіваць краіну і сябе. Кіно дазваляе бачыць і абмяркоўваць. Стужкі не для таго, каб адпачыць, а каб падумаць, прааналізаваць. Гэта не толькі прагляд, а рэфлексія.

### ПЛАЦДАРМ ДЛЯ ЛАЎРЭАТАЎ

*Cinema Perpetuum Mobile* — асаблівая пляцоўка менавіта для беларускага кіно, якое вылучана тут у асобную секцыю. Арганізатары адзначаюць, што на першым фестывалі беларускіх стужак было не так шмат — усяго некалькі аўтараў. Сярод іх і вядомы цяпер Мікіта Лаўрэцкі, творчае жыццё якога пачыналася менавіта на *CPM*. Але з цягам часу беларускі кінематограф стаў займаць усё большую нішу на фестывалі, кажа Дзяніс Шэка:

— Мы шмат увагі надаём камунікацыі з рэжысёрамі: прапануем тэмы, размаўляем пра рэчаіснасць. І аўтарам гэта падабаецца, бо многія кажуць, што наша Акадэмія мастацтваў не дае такой творчай прасторы, а ў нас яны атрымліваюць штуршок для рэалізацыі.

Беларускае кіно зараз перажывае не самы лепшы час, адзначаюць арганізатары *CPM*, бо яно знаходзіцца ў стане раз'яднанасці, лічыць Максім Сырэц:

— З маладымі беларускімі рэжысёрамі справы ідуць не вельмі добра. Часам у іх можа не быць за плячыма агульнага вопыту: «беларусьфільмаўскай» або «летапісаўскай» школы. Таму *Cinema Perpetuum Mobile* — яшчэ і спроба падтрымаць айчынны кінематограф, паказаць, на што здольныя беларускія аўтары, і матываваць рэжысёраў для працягу працы на кінаніве.



*З фільма «Я жыву ў гэтым горадзе» Мікалая Жалудовіча, Дзмітрыя Нікіфарава, Ягора Сурскага, Руслана Фядотава (Беларусь).*

*Cinema Perpetuum Mobile* — добры пачатак для тых, хто сваё кіно хоча папулярызаваць. Пытанне толькі ў тым, што самі аўтары паказваць знятае кіно не вельмі хочуць. Дзяніс Шэка лічыць, што для знаёмства сваёй стужкі з публікай рэжэсёры часта бываюць не гатовыя, бо іх фільмы на шырокія тэмы з гледачом размаўляць не могуць:

— Незалежнае кіно папулярызаваць больш складана таму, што аўтар спрабуе тут дакапацца да існасці, данесці яе да аўдыторыі, гэта складаная ўнутраная праца рэжысёра, праца асобы. З прасоўваннем незалежнага кінематографа важна шукаць адваротную сувязь з гледачом. Але каб стужка знайшла свайго гледача, дайшла да яго, фільмы трэба паказваць, — гэта тое, што мы і спрабуем рабіць.



*Кадр з фільма Вольгі Лабоўскінай «Пад іншым вуглом» (Беларусь).*

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Людзі сусвету,
## ці Запатрабаванасць таленту

**Што хвалюе маладых віртуозаў акадэмічнай музыкі? Міжнародны форум «Мінская вясна — 2016», які стартаваў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, — сёлета добрая магчымасць для таленавітых маладых выканаўцаў не толькі паказаць сябе, але і абмяняцца досведам з калегамі іншых краін. Гэта выдатна. Але дзе яшчэ на працягу года беларускім піяністам і скрыпачам, гітарыстам і баяністам можна паказаць сябе? Ці дастаткова ў нашай краіне пляцовак і ўмоў для рэалізацыі? Ці разумеюць слухачы, навошта патрэбна класіка, калі ўсе СМІ трубяць пра паездку на «Еўрабачанне»?**

Але ёсць музыканты і выканаўцы, якія паспяхова пакарылі прэстыжныя конкурсы, што ладзяцца ў розных краінах свету, яны сталі любімцамі патрабавальнай замежнай публікі, некаторыя рэалізоўваюцца там як творцы. Іншыя вяртаюцца працаваць дзеля роднай публікі, якая часам нават не ўсведамляе, што мае. Беларускі віяланчэліст Іван Карызна паехаў вучыцца ў Парыжскую вышэйшую нацыянальную кансерваторыю музыкі і танца. Вядомы піяніст Кірыл Кедук атрымліваў дадатковую адукацыю ў Польшчы і Італіі, жыў у Германіі, выступаў у Англіі і ЗША. Скрыпачка Юлія Лебядзенка з'ехала пакараць Вену. Гітарыст Павел Кухта атрымаў першую прэмію прэстыжнага міжнароднага конкурсу гітарыстаў у горадзе Хайнсберг. Пастаянна заваёўвае сусветныя пляцоўкі і баяніст Уладзіслаў Плігаўка: ад Грэцыі, Шатландыі да Аўстраліі і Кітая.

Мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Юрый Гільдзюк лічыць, што гэта натуральна. Музыканты ўвесь час у руху, яны людзі сусвету: гастраліруюць, удзельнічаюць у міжнародных конкурсах, выступаюць на еўрапейскіх і заходніх сцэнах не толькі таму, што там больш плацяць, а дзеля досведу, уражанняў, натхнення. Яны і там, за мяжой, так ці інакш прадстаўляюць сваю краіну. А потым прыязджаюць — поўныя сіл і новых надзей.

Але ці так проста знайсці музыканту, хоць і на пэўны час, годную замену? У аркестры, напрыклад, выканаўцы выдатна сыгрываюцца, ведаюць, хто на што здольны, а кожнаму новаму чалавеку, які прыходзіць у калектыў, даводзіцца да ўсяго прывыкаць зноўку. Ёсць і іншая рызыка: музыкант, які з'ехаў пакараць, скажам, Вену, можа і не вярнуцца. Там больш аркестраў, конкурсаў, фестываляў, ёсць нават імпрэсарыа. Ці можна, у такім выпадку, палепшыць умовы працы на радзіме, каб не страчваць таленавітых?

### ПРАЗ ЦЕРНІІ
### *PUBLIC RELATIONS*

Беларускія акадэмічныя музыкакнты вартыя таго, каб іх піярылі не менш, чым, скажам, фаварытаў «Славянскага базару», эстрадных зорак альбо знакамітых спартсменаў. Яны ж таксама ствараюць імідж краіны.

Неардынарны майстар ігры на фартэпіяна Аляксандр Музыкантаў, які яшчэ ў 16 гадоў атрымаў першую прэмію на адным з міжнародных конкурсаў, лічыць, што падчас арганізацыі ўсіх канцэртаў павінны быць людзі, якія мэтанакіравана і сумленна займаюцца продажам квіткоў. Гэта нармальная еўрапейская практыка. Калі ў горадзе ў двух месцах будзе вісець афіша, гэтага відавочна недастаткова для таго, каб запоўніць усю залу.

Не менш таленавітыя піяністка Юлія Архангельская і скрыпачка Кацярына Архіпава з ім цалкам салідарныя. Па іх словах, атрымліваецца так, што поспех выступлення залежыць не ад якасці ігры, а ад асабістых кантактаў музыканта, які саліруе. Прыходзіцца самастойна прапаноўваць квіткі сябрам, сваякам, знаёмым. Усё таму, што менеджары вялікіх канцэртных арганізацый зацікаўлены, як правіла, у буйных праектах, у асноўным з запрашэннем замежных зорак. Якая розніца, ці адбудзецца канцэрт у малой зале? А кожнае выступленне, між іншым, — важная частка ўсёй рэпертуарнай палітыкі і працэсу фарміравання культуры разумення класікі ў цэлым.



*Саліст Белдзяржфілармоніі, піяніст Аляксандр Палякоў.*

У Беларусі вельмі марудна развіваецца сістэма агенцтваў і імпрэсарыа, прадпрымальнікаў, якія займаюцца арганізацыяй канцэртаў, форумаў і іншых мерапрыемстваў, у дадзеным выпадку музычных. У асноўным усе выступы ў сталіцы, напрыклад, праводзіць Белдзяржфілармонія. Няпроста са спонсарствам. Мецэнаты ж музыцы патрэбныя не менш, чым жывапісу. Але з імі таксама трэба працаваць, тлумачыць людзям, куды і ў каго яны ўкладаюць грошы.

### ВЫХАВАННЕ ГУСТУ

Гаварыць пра акадэмічную музыку не проста можна, а трэба, прычым шмат. З экранаў тэлевізараў і маніторау, старонак газет і часопісаў. І нават пра тое, пра што, здавалася б, ужо ўсё сказана. Чаму? Каб прывіць нарэшце людзям разуменне таго, навошта патрэбныя творы Моцарта, Баха, Шастаковіча, Ліста, каб развеяць стэрэатыпы аб тым, што класіка — гэта сумна, а музыкі — наогул народ зануднЫ. На жаль, гэты жудасны шаблон да гэтага часу захаваўся нават у тых, хто павінен яго разбураць, — у СМІ.

Мы гаварылі аб праблемах маладых талентаў Беларусі з Аляксандрам Паляковым, лаўрэатам міжнародных конкурсаў, піяністам, салістам Белдзяржфілармоніі, цэлых паўгадзіны. Ён пераадолеў адлегласць Мінск — Кітай і толькі часова ў ад'ездзе: атрымаў запрашэнне ў адзін з універсітэтаў горада Наньчан, правінцыі Цзянсу. Працуе там прафесарам, выкладае спецыяльнае фартэпіяна на кафедры музыкі і мастацтва.

«Памятаю, як доўга я спрабаваў трапіць на перадачу «Добрай раніцы». Там думалі: ой, раз акадэмічны выканаўца, значыць, з ім не будзе пра што паразмаўляць і рэйтынгу тэлеканалу гэта не дабавіць. А што адбываецца на фестывалях, форумах? Добра, калі тэлекамеры з'яўляюцца на адкрыцці, як правіла, усё. Амаль ніякіх анлайн-трансляцый. А колькі гісторый было расказана пра маладых беларускіх музыкаў? Няшмат. Бо, каб іх добра ведалі, хадзілі на іх канцэрты, яны павінны, груба кажучы, мільгаць у тэлевізары! І ў інтэрнэце адпаведна. Пра што з імі гаварыць? Пра ўсё! Неабавязкова пра музыку. Таленавіты выканаўца — гэта чалавек, які пабываў у розных краінах, набраўся досведу, шмат чаго бачыў. Тым больш ён, як правіла, інтэлігентны і выхаваны — з ім лёгка мець зносіны, яго хочацца слухаць. Еўрапейскія СМІ праследуюць эстэтычную функцыю, у нас жа арыенцір — на забаўкі. Калі мы хочам быць здаровай культурнай нацыяй, такога не павінна быць», — выказаў меркаванне Аляксандр Палякоў.

Класічная музыка не памрэ, але можа перабрацца з вялікіх і ўтульных, з добрай акустыкай, залаў для жывога, душэўнага ўспрымання ў... навушнікі. Навошта кудысьці ісці, калі ёсць камп'ютар? Праблема працы з публікай стаіць вельмі востра.

Юлія Архангельская распавядае, што падчас Каляднага туру па гарадах Бельгіі яна выступала з камерным хорам у касцёлах. Людзі прыходзілі з задавальненнем, прычым розных узростаў, выглядалі шчаслівымі. У нас, каб выцягнуць дарослага чалавека з траекторыі «дом — праца — дом», трэба вельмі пастарацца. Складаная эканамічная сітуацыя, занадта шмат клопатаў, перажыванняў пра заўтрашні дзень.

«Музычны густ трэба выхоўваць з малых гадоў. У адной школе, куды прыязджаеш з выступам, дзеці паслухмяныя, удумлівыя. У іншай паводзяць сябе абыякава. Тут усё залежыць ад педагогаў. Калі яны людзі высокадухоўныя, то і дзеці будуць разумець класіку». Быў у практыцы Юліі і такі выпадак: бацька аднаго з дзяцей проста адмовіўся набываць квіток на адзін з невялічкіх класічных канцэртаў, пашкадаваўшы грошай. Білет каштаваў дваццаць тысяч рублёў — амаль як пачак чыпсаў.

### НА СЯМІ ВЯТРАХ

Аляксандр Палякоў упэўнены, што ў нашай краіне няшмат пляцовак, якія стаяць на адным узроўні з філарманічнымі. А калі і ёсць, то цяжка знайсці кропкі паразумення з арандадаўцамі, арганізатарамі і самімі творцамі. Усе гнуць сваю лінію: быццам нікому нічога не патрэбна. Ёсць у Гомелі, напрыклад, шыкоўная зала чыгуначнікаў з цудоўным раялем. Дык вось, нашы музыкі туды трапіць не могуць. А чаму? З-за неверагодна завышанай арэнды!

Калі ты трапіў у штат філармоніі — добра, не — рыхтуйся да вольнага плавання. А маладым хочацца выступаць — і няважна, дзе: у школах, каледжах, маленькіх гарадах ці вёсках. Нават два слухачы для іх — гэта каштоўна. Больш за тое, музыканты жадаюць іграць менавіта ў Беларусі. Аляксандр Палякоў з'ехаў у Кітай таму, што для яго гэта новы творчы вопыт і магчымасць паправіць фінансавае становішча. Але яго душа рвецца дадому, у родны горад, да сям'і, сяброў і калег. У марах — сыграць канцэрт у Белдзяржфілармоніі летам, у гонар яе 80-годдзя.

Калі вярнуцца да пашырэння канцэртных пляцовак, то выдатная практыка, якая з'явілася не так даўно, — суботнія вечары класічнай музыкі ў цэнтры Мінска, на адкрытым паветры. Творы беларускіх і замежных кампазітараў гучаць у выкананні ў тым ліку і яшчэ зусім юных дараванняў. Напрыклад, з музычнага каледжа імя Глінкі альбо Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Добрая магчымасць адтачыць майстэрства і досвед першых выступленняў перад публікай. Ёсць і другі станоўчы бок: куды б ні спяшаўся заняты клопатамі чалавек, хутчэй за ўсё, пачуўшы гукі выдатных мелодый, ён спыніцца, задумаецца... І прыйдзе сюды яшчэ раз! А можа, яго зацікавіць, і ён працягне знаёмства з класікай ужо ў залах філармоніі? Вось гэта і ёсць рэклама. Толькі не камерцыйная, а псіхалагічная.

Музыка выходзіць не толькі «на паветра», але і ўкараняецца ў прастору мастацкіх галерэй, гучыць на адкрыццях выставак, культурных форумаў і проста свецкіх прыёмах. Вялікае значэнне мае падача, стыль, атмасфера. Асабліва для часу, калі ў модзе так званыя спецэфекты. Людзей цяпер складана здзівіць.

### МЕРА СІНТЭЗУ

Юлія Архангельская згодная з тым, што музыку можна асучасніць... візуальнымі эфектамі, напрыклад. Ёсць творы, ужо першапачаткова напісаныя пад натхненнем ад карцін, — іх дакладна трэба падаваць разам з відэаінсталяцыямі жывапісу на экране па-за сцэнай. Такі 3D-сінтэз мастацтва і музыкі. Але тут важна пачуццё меры і густу: далёка не ўсе творы Баха ці Моцарта наогул можна чымсьці дапоўніць.

Слухачу неабходна таксама дазволіць адчуць элітарнасць, вытанчанасць класікі. Крэатыўна падысці да дызайну музычных дыскаў, напрыклад, а не друкаваць на іх аднолькавыя партрэты ў стрыманых строях.

Можна часцей іграць у філармоніі (такая практыка ўжо набывае папулярнасць) не толькі чыста акадэмічную класіку, а і саўндтрэкі з усімі любімых фільмаў. У выкананні аркестра яны атрымліваюць другое дыханне. Калі чалавек пераступіць парог філармоніі і сыдзе адтуль задаволеным, то дакладна вернецца зноў. Не трэба баяцца эксперыментаў з падачай. Хай артысты з'яўляюцца з залы, а хто-небудзь з іх увогуле іграе з балкона, хай мяняецца падсветка, а гледачы становяцца ўдзельнікамі і... Інтэграцыя ў тэатр таксама цікавая.

Нягледзячы на падтрымку, маладым не трэба забывацца на тое, што галоўны складнік поспеху — самаарганізацыя. Ніхто не возьме за руку і не прывядзе да славы і апладысментаў. Трэба шукаць сябе, свой калектыў, прыдумваць ідэі для новых праграм, вучыцца падаваць сябе, улічваючы вялікую канкурэнцыю. Трэба ўмець і праз няўдачы пераступаць, заўсёды шукаць выйсце — не апускаць рукі.

Акадэмічным музыкантам вельмі пашанцавала, бо яны маюць зносіны з душой людзей, прычым напрамую. Яны вучаць адчуваць, а гэтага вельмі не хапае ў сучасным свеце.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Палескія адценні

## ў жывапісе Уладзіміра Сулкоўскага

**Мастак Уладзімір Сулкоўскі ўнікальны і канцэптуальны. Яго жывапіс зацікаўлівае класічным почыркам, мастацкай вобразнасцю і любоўю да беларускай зямлі. Сёння натхніцца работамі мастака можна ў галерэі «Мастацтва» на выстаўцы «Формула нацыянальнага каларыту», што адлюстроўвае розныя перыяды творчасці аўтара.**



*Партрэт Рыгора Барадуліна, 2006 г.*

Падрыхтоўкай выстаўкі займалася Алена Сулкоўская, дачка мастака. Шануючы памяць пра бацьку, падбірала карціны з мэтай паказаць асноўныя напрамкі яго творчасці і важныя, хвалюючыя тэмы. У сваіх работах Уладзімір Якаўлевіч адлюстроўваў вобразнасць, унікальнасць беларускай культуры і традыцый. Мастака прываблівала Палессе, краявіды якога ён пераносіў на палотны, не дадаючы лішніх фарбаў, захоўваючы гармонію і эстэтыку радзімы. Яго пейзажы, восеньскія, вясновыя і летнія, ажываюць у выставачнай прасторы. Нібы якасная мастацкая проза, раскрываюць набалелыя пытанні далікатна, з вытрымкай асабістай пазіцыі.

Аўтар любіў пісаць інтэр'ерныя кампазіцыі, натхнёныя ўспамінамі дзяцінства. Гэта палотны, якія адпавядаюць настрою душы сапраўдных беларусаў. Кранаюць палескія інтэр'еры маленькай сялянскай хаткі: невялікія вокны, традыцыйныя абрусы, на стале дагарае свечка, якая адлівае цьмяным светам, а за старымі драўлянымі сталамі сядзяць прыгожыя жанчыны ў нацыянальных сукенках. Аўтар сур'ёзна, удумліва перадае ўсе дэталі роднага месца, падкрэсліва душэўнасць атмасферы святлом і прастатой. Яго работы да канца скончаныя, паэтычныя і лёгкія. Іх нельга змяніць нават у думках, бо аўтарская канцэпцыя прадумана з улікам дробязяў і часу.

Уладзімір Сулкоўскі быў не толькі таленавітым пейзажыстам — асобнае і важнае месца ў яго творчасці займаў партрэтны жывапіс. Мастак стварыў шэраг характэрных партрэтаў вядомых дзеячаў беларускай культуры. Сярод іх партрэт Кастуся Каліноўскага, Рыгора Барадуліна, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і іншых. На палотнах Уладзіміра Якаўлевіча ўсе асобы прадстаўлены задуменнымі і сур'ёзнымі. Заўважна, што ў кожнага партрэта свае асаблівасці палітры.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі вучні майстра, якія ахарактарызавалі яго як чалавека шчодрага на мастацкія сакрэты. Яны распавялі, што аўтар ніколі не баяўся раскрываць цікавыя, прыдуманыя ім тэхнікі змешвання пігменту ў фарбах і прынцыпы падкрэслівання дэталяў колерам. Ён адкрываў самае важнае і незвычайнае, вучыў захоўваць цікавасць да мастацтва і берагчы творчы імпульс не для вычварнага, а для простага і ў той жа час арыгінальнага. Ён паказваў вучням, як у работах знакамітых майстроў шукаць лінію святла і разбірацца ў адценнях шэрага, вывучаць уплыў розных фарбаў на палатно.

Талент і прафесіяналізм Уладзіміра Сулкоўскага таксама падкрэсліў беларускі паэт і пісьменнік Алесь Разанаў, які быў знаёмы з аўтарам асабіста. На адкрыцці экспазіцыі ён сказаў некалькі слоў, што, здаецца, кранулі ўсіх прысутных:

— У аснове жывапісу Валодзі мы бачым людзей і кветкі. Адкуль усё гэта? Можа, таму, што на працягу жыцця ў яго сэрцы жыла любоў да сапраўднага чалавека, якая перапляталася з квітнеючай роднай прыродай. Мастацтва — вялікая сіла: мастака быццам няма, а ён усе роўна з намі, у гэтых прыгожых работах.

Выстаўка «Формула нацыянальнага каларыту» блізка знаёміць гледачоў з аўтарам, раскрывае яго перажыванні за спадчыну, за родную прыроду. У кожнага палатна свая рэалістычная гісторыя. Жывапіс Уладзіміра Сулкоўскага, як вясёлка пасля навальніцы, запрашае ў штодзённым, звыклым сюжэце бачыць прыгожае, вытанчанае мастацтва, авеянае матывамі роднай зямлі.

**Вікторыя АСКЕРА**



*«Палескі інтэр'ер», 1972 г.*

## Культурны ракурс



**У горадзе Лідзе, ля ўвахода ў аднайменную гасцініцу, усталяваная скульптура Уладзіміра Жбанава «Прывітанне, камандзіровачны!». Гэта мужчына, які сядзіць на вялікім пацёртым чамадане. У адной руцэ — карта Ліды, другую «камандзіровачны» працягвае мінакам, каб павітацца. Мясцовыя жыхары ахрысцілі яго дзядзькам Васем. У іх ёсць павер'е, што калі пацерці чаравік на левай назе дзядзькі Васі, то абавязкова станеш шчаслівым у найбліжэйшы час. Працуе! Праверана асабіста: пасля паліроўкі вышэйназванага прадмета туалету літаральна праз некалькі месяцаў сустрэла каханага мужа. Відаць, жадаючых стаць шчаслівымі шмат, бо чаравік нацёрты да бляску!**

**Аксана АГАРОДНІКАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваны на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 7.04.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1748.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Індэкс 220013

Заказ — 1372

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686